№ 22 (284) 14 чэрвеня 2002 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у пятніцы

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА





# Пустэча замест гімну

17 чэрвеня будзе зацьверджаны Дзяржаўны гімн Беларусі. Паўгадавыя пошукі галоўнай песьні скончыліся "тэлефонным плебісцытам". У ім узялі ўдзел больш за 118 тыс. чалавек. Зь іх, паводле сьцьвярджэньня кіраўніцтва дзяржаўнае камісіі, 37437 аддалі перавагу варыянту В.Раінчыка—Л.Пранчака "Красуй, Беларусь", 26279 галасоў атрымала песьня "Радзіма мая дарагая" (У.Алоўнікаў—А.Бачыла). Сярод трох тэкстаў, напісаных на музыку Н.Сакалоўскага, слухачы найбольш упадабалі Карызнаў (ён атрымаў 25636 галасоў). Варыянты З.Марозава й І.Карэнды падтрымалі адпаведна 15947 і 8688 чалавек. У цэлым 50271 чалавек (42%) аддалі перавагу музыцы Несьцера Сакалоўскага. Каля 5 тыс. чалавек прагаласавалі супраць усіх варыянтаў. Хоць большасьць апытаных выказалася за новыя гімны, "на зацьвярджэньне прэзыдэнту" быў перададзены варыянт Карызны-Клімковіча на музыку Сакалоўскага, які заняў у "індывідуальным заліку" толькі трэцяе месца.

Выбар гімну быў перадвызначаным папярэднім расейскім прыкладам (цікава, што было б, каб там узялі іншы?). Выбар дакладна адлюстроўвае пераходны пэрыяд у станаўленьні нацыі. Пераважыла жаданьне пакінуць стары гімн, "удасканаліўшы" словы. Але якраз дасканаласьць словаў выклікае найбольшыя сумневы. Тэкст перанасычаны заклікамі "слаўся", "квітней", "сьвяціся", "жыві". Ад гэтага верш робіцца патасным і аднастайным, бясконцыя прызнаньні ў любові да роднай зямлі толькі нівэлююць гэты панятак.

БССРаўскія "бітвы за волю", "бітвы за долю" і "сьцяг перамог" згадваюцца . А вось "працоўных" з тэксту вычысьцілі. "К шчасьцю працоўных сонечны шлях" заменены на "Наш запаветны сонечны шлях". Прыбралі з гімну і "братнюю Русь", якая фігуравала некалі ў Міхася Клімковіча, а на першапачатковым этапе — і ў тэксьце Карызны. Нехта цьвёрдаю рукой замяніў яе на "Мы — беларусы — мірныя людзі", заадно памяняўшы і пунктуацыю радка. Застаўся толькі каньюнктурны "народаў братэрскі саюз".

У варыянце У.Карызны ўвогуле ня ўсё добра з пунктуацыяй, граматыкай і націскам. А радкі "Горда сьвяціся ў яснае высі" і "Наш запаветны сонечны шлях" разам зь іншымі надуманымі вобразамі надаюць тэксту псыхадэлічнае адценьне.

Хваласьпеў народу ("Слава табе, наш свабодны народ!") замененае на праслаўленьне бацькаўшчыны ("Вечна жыві і квітней, Беларусь!"). Гэта і ёсьць галоўная зьмена ў новым старым гімне.

**Мікола Бугай**

**Музыка Аляксей ФРАЛОЎ: "У Беларусі ёсьць два гістарычныя гімны — "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" (музыка Ўладзімера Тэраўскага, словы Макара Краўцова) і "Магутны Божа" (музыка Міколы Равенскага, словы Натальлі Арсеньневай), якія вызначаюць змагарную і духоўную сутнасьць беларускага народу. Ухвалены тэкст нагадвае афіцыйны заказ".**

**Паэт Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК: "Будзе гучаць музыка Несьцера Сакалоўскага, але слоў Міхася Клімковіча і Ўладзімера Карызны ніхто сьпяваць ня будзе".**



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

## камэнтар рэдакцыі
# Лічыльнікі не чырванеюць

Гімн РБ будзе негістарычны, каньюнктурны і выхалашчаны. Велічная музыка Несьцера Сакалоўскага ратуе няпэўны ў сабе тэкст. Народ 118 тысячамі тэлефанаваньняў, а не кампэтэнтны прадстаўнічы орган выбраў за пяць дзён дзяржаўны гімн. Сярод выстаўленых на "тэлерэфэрэндум" варыянтаў ніводнага гістарычнага гімну не было.

З усіх дзяржаўных сымбаляў на ўсенародны зьдзек не выстаўлялі яшчэ толькі назвы краіны. Дык ніколі ж ня позна! Вопыт тэлефонна-тэлевізійных апытаньняў з далейшым зацьвярджэньнем вынікаў прэзыдэнтам заслугоўвае далейшага разьвіцьця. Пытаньне падаўжэньня тэрміну прэзыдэнцкіх паўнамоцтваў да 7 гадоў хай стане наступным. Лідзія Ярмошына і віцэ-прэм'ер Дражын няхай лічаць. Гэта і будзе наш запаветны сонечны шлях. Доўжыцца яму столькі, колькі ўладзе Аляксандра Лукашэнкі. А гімн на наступным этапе фармаваньня нацыі спатрэбіцца больш трывалы, выверааны і, безумоўна, законны.

# Свабода сумненьня

**Вернікі-пратэстанты выступілі супраць новай рэдакцыі закону "Аб свабодзе сумленьня і рэлігійных арганізацыях", прынятай палатай прадстаўнікоў у першым чытаньні. Лідэры Саюзу эвангельскіх хрысьціянаў-баптыстаў, Саюзу хрысьціянаў веры эвангельскай, Аб'яднаньня грамадаў хрысьціянаў поўнага Эвангельля, Канфэрэнцыі цэркваў хрысьціянаў — адвэнтыстаў сёмага дня накіравалі зварот да выканаўчай і заканадаўчай улады Беларусі. Яны лічаць, што новая рэдакцыя закону парушае правы вернікаў і рэлігійных грамадаў. Форма пратэсту супраць закону абраная вельмі нязвыклая: на працягу чэрвеня вернікаў заклікалі маліцца, а 15—16 чэрвеня — яшчэ й пасьціцца, каб закон у другім чытаньні ня быў прыняты.**

Рыхтавалі закон Рада Міністраў, камісія па правах чалавека палаты прадстаўнікоў, Цэнтар законапраектнай дзейнасьці пры Адміністрацыі прэзыдэнта і Камітэт па справах рэлігіяў і нацыянальнасьцяў пры Радміне.

Незадавальненьне пратэстантаў выклікае неабходнасьць мець 20 заснавальнікаў для рэгістрацыі рэлігійнай грамады. Вялікімі грамадамі могуць пахваліцца хіба што буйныя гарады ды "пратэстанцкая" Берасьцейшчына. У драбнейшых гарадах і мястэчках яны нешматлікія, і ня ўсе зь іх змогуць набраць неабходную для рэгістрацыі колькасьць вернікаў. Незарэгістраваная ж грамада ня мае права ладзіць богаслужэньні. Гэты пункт новага закону можа пашкодзіць ня толькі пратэстантам. Уніяты таксама выказваюць з гэтай нагоды свае перасьцярогі.

Зарэгістраваныя грамады, паводле новага закону, ня маюць права правіць службы "па месцы жыхарства грамадзянаў". Але ж, як пішуць пратэстанцкія лідэры ў сваім звароце, ня ўсе маюць магчымасьці будаваць малітоўныя дамы: "Перашкаджаючы адкрыцьцю цэркваў, мясцовыя ўлады не даюць згоды на вывад будынкаў з жытловага фонду нават тады, калі прыватныя дамы пустуюць".

Дзейны закон больш лібэральны за той, які прапануецца прыняць.

Працяг на старонцы 5.

## навіны

### Амністыя

**2 тыс. асуджаных выйдуць на волю дзякуючы новай амністыі.** Яшчэ 5 тыс. чалавек вызваляцца цягам году, а 20 тысячам будзе скарочаны тэрмін.

### Газаправод у абход Беларусі

**Прэзыдэнты Расеі, Украіны і канцлер Нямеччыны падпісалі пагадненьне пра разбудову газаправоду з Расеі ў Эўропу праз Украіну.** Праект пампаваньня газу празь Беларусь пахаваны.

### Гульні вакол прыватызацыі

**Намесьнік міністра эканомікі А.Тур агучыў новую канцэпцыю прыватызацыі прадпрыемстваў нафтахіміі.** Яе ідэя такая: на гэтым этапе кантрольнага пакету акцый не прадаваць, а ўвогуле акцыі прадаваць па 10%. Гэтая заява А.Тура выклікала неадкладную рэакцыю расейскіх алігархаў. Кампанія "Ітэра" заявіла пра скарачэньне паставак газу ў Беларусь напалову, быццам бы "з-за беларускай запазычанасьці 24 млн. даляраў" — і гэта празь дзень пасьля доўгае сустрэчы Лукашэнкі з Пуціным. А "Сургутнафтагаз" пагражае ўкласьці грошы, якія трымаў для Беларусі, ва ўкраінскую прамысловасьць.

### Менгарвыканкам захістаўся

**Рабочыя, якія працуюць на рэканструкцыі плошчы Незалежнасьці, днямі заўважылі, што пад аркай у будынку мэтрапалітэну вадой размыла глебу да самай плятформы. Вада дайшла да падмурку суседняга будынку — Менгарвыканкаму, і той цяпер пад пагрозай абвалу.**

Будынак упраўленьня мэтрапалітэну, які пабудавалі ў 1984 г. паміж Менгарвыканкамам і корпусам БДУ, стаіць на спэцыяльных гумовых падушках. А вось калёны, якія трымаюць арку, трымаюцца на падмурку. Пад ім вада размыла глебу аж на 9 мэтраў. Плятформа, на якой месьціцца гэты будынак і будынак Менгарвыканкаму, пачала апускацца. Зроблена ўжо некалькі дзясяткаў сьвідравінаў, куды заліваюць цэмэнт, каб замацаваць канструкцыю. Ды ці ўратуе гэта сытуацыю, богведама.

Зрэшты, у Менгарвыканкаме сьцьвярджаюць, што ніякай небясьпекі для будынкаў няма.

**Б.Т.**

# з усёй краіны

## Каровы трапілі пад цягнік

**Восем кароў, якія выбеглі на чыгунку між пераездамі Насілава і Асанава Маладэчанскага раёну, былі зьбітыя пасажырскім цягніком "Калініград—Масква".** Пры гэтым адна засталася ляжаць на рэйках, зрабіўшы немагчымым далейшы рух цягнікоў па гэтай лініі. Ён аднавіўся толькі праз паўгадзіны. Няшчасная жывёліны пацярпелі, бо разарваўся "электрапастух".

БелаПАН

## Сьмерць таксіста

**Сотня слуцкіх таксоўшчыкаў ехалі за катафалкам з труной свайго калегі.** Сьмерць напаткала 24-гадовага Л. апоўначы, калі яго выклікалі па мабільным тэлефоне і папрасілі адвезьці ў прыгарадную вёску Кляпчаны, аб чым ён пасьпеў паведаміць свайму дыспэтчару. Л. знайшлі раніцай у ляску паміж Навадворцамі й Кляпчанамі ў сваёй машыне з трынаццацьцю нажавымі ранамі каля сэрца. Забойцы не кранулі ні магнітафону, ні сьціплага заробку кіроўцы. Падобнае забойства таксоўшчыка было ўчынена год таму паблізу вёскі Ячава і засталося нераскрытым. Па факце новага пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу. Пасьля Л. засталася сям'я.

## Разабраў вагон

**Мясцовы жыхар Б. залез пад грузавы вагон, што стаяў на чыгуначнай станцыі Слуцак, ды адкруціў дзьве магістральныя дэталі паветраразьмеркавальнікаў тармазной сыстэмы.** Іх адсутнасьць падчас руху саставу мела б трагічныя вынікі. 8-кіляграмовыя дэталі злодзей зьбіраўся здаць у прыёмнік каляровых мэталаў, але быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі. Каштуюць скрадзеныя дэталі 460 тыс. рублёў.

Міхась Кутнявецкі, Слуцак

## Пахаваньне стралы

**13 чэрвеня ў Янаве, Стаўбуне, Пералёўцы, Неглюбцы, Бутрамеўцы, Казацкіх Балсунах і іншых вёсках Веткаўшчыны й Чачэршчыны можна пабачыць траецкі абрад Пахаваньня стралы.** Там, прыблізна за 400 км ад Менску, ён захаваўся ў некранутым выглядзе да нашых дзён. Пра гэты старажытны беларускі карнавал ведаюць фальклярысты ўсёй Эўропы. У гэты дзень на Палесьсе выправілася экспэдыцыя аматараў этнікі зь Менску — пабачыць рытуальных песьняў, карагодаў і "крывых танкоў", пабачыць сам абрад.

Аляксей Фралоў

## Рэканструкцыя рынку

**У Воршы адчыніўся першы міні-паркінг.** Ён пабудаваны на гарадзкім рынку, які апошнім часам перажывае карэнную рэканструкцыю. Прывабны выгляд набывае рынкавая плошча, дзе месьцічы мясілі бруд у пошуках патрэбнага тавару ледзь з XIV ст.

## Немцы ў калгасе

**Нямецкая фірма "Штотц" арандавала на 50 гадоў 400 га зямлі ў калгасе імя Чапаева (Аршанскі раён).** Немцы плянуюць выкупіць маёмасьць калгасу ды ўкласьці ў яго інвэстыцыі. Скарачэньняў пакуль не плянуецца, але п'яніцам ды гультаям у сумесным прадпрыемстве месца ня будзе. Затое калгасьнікам гарантуецца штомесячны заробак без затрымак, а пэнсіянэрам — сацыяльная падтрымка. Зямлю ўрабляць у гаспадарцы цяпер будуць па сучасных тэхналёгіях на нямецкай тэхніцы. Яе прасоўваньне на беларускі рынак і зьяўляецца галоўнай мэтай іншаземцаў.

Віктар Лютынскі, Ворша

## Настаўнікаў скарачаюць

**Да 1 верасьня ў сыстэме адукацыі Магілёўшчыны звольняць 4,5 тыс. чалавек.** Пакуль з усіх раёнаў толькі ў Глуску й Дрыбіне адолелі плянавы рубеж — 10% скарачэньня пэдагагічных кадраў. Дрыбінцы аж перастараліся, пакінуўшы без работы 22% ад агульнай колькасьці пэдагогаў і тэхнічных работнікаў.

"Ленінскі шлях"

## Прыпіскі ў БПСМ

**Завышэньне колькасьці першасных арганізацыяў БПСМ і іхных чальцоў выявіў камітэт дзяржкантролю падчас праверкі магілёўскага БПСМ.** Так, у Цэнтральным раёне Магілёва разьбежка паміж "папяровымі" й рэальнымі сябрамі арганізацыі складае 1336 чалавек (1940 і 604). У Ленінскім раёне — 974 (1974 і 1000). У Кастрычніцкім — 431 (1954 і 523 чалавекі).

Яшчэ праверка выявіла, што першы сакратар Магілёўскага абкаму БПСМ плаціў сабе прэміі (нават эканомячы на аплаце працы работнікаў апарату), памер якіх даходзіў **да 219% ад заробку. Агулам заробак "першага" з усімі надбаўкамі сягаў сёлета ў студзені 580000 рублёў.**

Пакроўскі

## Страйкі ў Дрыбіне

**У калгасе "Дрыбінскі" зноў бастуюць.** Калгасьнікі дабіваюцца выплаты грошай, зробленых у часе сяўбы.

Сяргей Мурзін, Дрыбін

## Сэкс па бабуліным тэлефоне

**Жыхарка вёскі Олтуш Маларыцкага раёну ледзь не згубіла прытомнасьць, дазнаўшыся, што мусіць заплаціць за тэлефон 624 тысячы рублёў.** Як высьветлілася, нагаварыў гэтульки ейны ўнук, што карыстаўся праз бабулін апарат паслугамі "сэкс па тэлефоне". Грошы з пэнсіянэркі будуць спагнаныя праз суд.

І.Хведаровіч, Берасьце

---

перaабмундзіраваньне

# Наша войска ў камізэльках

**Сёлета шэраг падразьдзяленьняў беларускага войска атрымаў новую форму. Чыноўнікі зь Міністэрства абароны кажуць, што праз тры гады яе апрануць усе вайскоўцы.**



Міністар абароны генэрал-палкоўнік Леанід Мальцаў пляное скончыць рэфармаваньне беларускага войска ў 2005 г. Да таго часу Ўзброеныя Сілы краіны скароцяцца з 80 тыс. вайскоўцаў і 20 тыс. цывільных службоўцаў да 50 і 15 тыс. адпаведна. Адным зь першых крокаў рэформы сталася распрацоўка абмундзіраваньня новага ўзору.

Яно будзе розьніцца ад старога іншым малюнкам камуфляжу, разьмешчаным упоперак (раней ён разьмяшчаўся ўздоўж). У рэчавай службе тылу Ўзброеных Сілаў, якая займалася распрацоўкай абмундзіраваньня, кажуць, што яно зробленае з больш якаснай тканіны — ня будзе гэтак выгараць і выцягвацца.



ГАЗЕТА СЛОНІМСКАЯ

Апроч таго, у кожнага вайскоўца будзе "разгрузачная камізэлька", кштальту тых, якія маюць дэсантнікі. У яе кішэні можна будзе класьці мэдыкамэнты, магазыны з патронамі, гранаты, харчы, радыёстанцыю — усё, што раней месьцілася ў сумках. Камізэлькі для аўтаматчыкаў, снайпэраў і кулямётчыкаў будуць розьніцца. Па дэсантным варыянце зробленыя і рэчавы мех, у якім, сярод іншага, мусіць быць спартовы касьцюм, зьмена на абутку і г.д. Афіцэры атрымаюць індывідуальныя радыёстанцыі ды каліматорныя лазэрныя прыцэлы.

Першымі форму новага ўзору атрымалі жаўнеры і афіцэры найбольш баяздольных часьцей. Так, сёлета ўвесну яе апранула 1-я мотастралковая рота 11-й гвардзейскай асобнай мэханізаванай брыгады, што стаіць у Слоніме. Леанід Мальцаў у красавіку асабіста агледзеў гэтую роту і быў задаволены выглядам байцоў у новым абмундзіраваньні. А ў часе сумесных расейска-беларускіх вучэньняў на Гарахавецкім палігоне пад Масквой слонімская рота ўразіла расейцаў сваёй амаль "NATOўскай" формай.

Алег Тачоны

---

# лісты ў рэдакцыю

## "Тры чарапахі" замест "Камбата"

**Некалі Францішак Багушэвіч на пытаньне "Гдзе ж цяпер Беларусь?" выразна адказаў: "Там, братцы, яна, гдзе наша мова жывець..." І мей рацыю, бо русіфікацыя пры канцы XIX ст. яшчэ не дасягнула такіх памераў, як цяпер.**

А нашыя вайсковыя гарнізоны – гэта ледзьве не расейскія анклявы на беларускай зямлі. Напрыклад, у 72-м Аб'яднаным вучэбным цэнтры ("Печы") чужая для беларусаў моўная стыхія падмацоўваецца адшліфаваным у ідэалягічных аддзелах вайсковым пантэонам: Сувораў, Кутузаў, Жукаў etc. Праўда, адраджэньне пачатку 90-х дзе-нідзе пакінула свае сьляды на інфармацыйных стэндах. Але інфармацыя тая проста-такі перагрувашчаная памылкамі, а таксама сярмяжнай сьціпласьцю ў дачыненьні да ўласнай вайсковай гісторыі. Паводле тых стэндаў, беларусы ў мінулым з кім толькі ўдала ні ваявалі: зь немцамі, крымчакамі, французамі, швэдамі, але толькі не з маскалямі. Пра войны з Масковіяй увогуле ані згадкі. Таму ад г.зв. беларускага войска нейкіх прыемных неспадзяванак я ўжо не чакаў.

Аднак дарма. Апошнім часам разпораз у якасьці шыхтавай песьні сярод "бацяняў-камбатаў" і іншае лухты можна пачуць NRM-аўскія "Тры чарапахі". І калі чуеш, як рота жаўнераў штомоцы выводзіць: "Ты не чакай, сюрпрызаў ня будзе", пераконваешся, што сапраўдная беларусізацыя можа пачацца толькі зьнізоў. І як тут шмат залежыць ад канкрэтнай асобы, якая здолее прапанаваць і пачаць! Трохі б болей сьмеласьці і настойлівасьці нашым жаўнерам-беларусам, і беларуская песьня, а разам зь ёй і беларуская мова пакрысе адваюе сваё месца пад скупым армейскім сонцам.

Сяржук Салаш, Барысаў

## Нашы хаты былі багацейшыя за швэдзкія



**Стакгольм з 1 да 8 чэрвеня сьвяткаваў сваю 750-ю гадавіну.** У 1252 г. ярл (князь) Біргер заснаваў гэта места – "Паўночную Вэнэцыю", як яго часам называюць. З нагоды юбілею задарма працавалі ўсе 49 музэяў (звычайна квіток каштуе 50-70 кронаў – 5–7 даляраў). У Старым месьце на 4 пляцоўках з раніцы да вечара ладзіліся канцэрты фальклёрных гуртоў, тут жа кавалі, шкляры рабілі свае шэдэўры, можна было пабачыць рыцарскі турнір, паспытаць страваў народнай кухні. Чаўны вазілі турыстаў па возеры Мэлярэн і па шхерах вакол места. Сваё ўмельства дэманстравалі маракі, вайскоўцы і пажарныя. Уначы адбыліся дыскатэкі і рок-канцэрты. Амаль кожны чалавек на вуліцы меў у руцэ швэдзкі сьцяжок. Сьцягі пазіралі й з усіх прыватных балконаў.

Ля Каралеўскага палацу можна было ўбачыць прынцэсу Вікторыю, якая вольна гуляла па месьце (згодна з заканадаўствам, каралевай зробіцца яна, а ня ейны брат – бо ён малодшы).

Шмат цікавага ў Стакгольме для беларусаў. Амаль у кожным музэі – Пагоні, бо Жыгімонт Ваза быў адначасова каралём швэдзкім, польскім і вялікім князем літоўскім: у 1655 г. паводле ўмоваў Кейданскай уніі ВКЛ увайшло ў склад Швэдзкай імпэрыі. У музэі *"Livrust-kammaren"* (Каралеўскі цэйгауз) можна ўбачыць залатыя ордэн з 16 дыямэнтамі, якім Карл X узнагародзіў Януша Радзівіла. Як сьведчыць каталёг, да 1913 г. гэты ордэн захоўваўся ў Нясьвіскім замку.

Назіраючы за юбілейнымі сьвяткаваньнямі, не даеш веры, што ў пачатку XX ст. Швэцыя была беднай краінай, зь якой у Амэрыку зьехала 25% насельніцтва! Калі параўнаць хаты, у якіх нарадзіліся нашыя і швэдзкія клясікі XIX ст., дык у нашых былі лепшыя ўмовы. Нешта здарылася з намі ў XX ст. Але прыклад Усходніх Драконаў сьведчыць, што, пачынаючы нават з нуля, можна за 30–40 гадоў адбудаваць краіну, трэба толькі верыць і працаваць.

Андрэй Катлярчук, Стакгольм

---

# навіны гаспадарскія

**ДАТЫ ВЫПЛАТЫ ПЭНСІЙ** у Берасьцейскай вобласьці ссоўваюцца на 4 дні, пачынаючы з чэрвеня. Прычына — недахоп сродкаў у фондзе сацыяльнай абароны.

**ПАЗОЎ ПІВАВАРНАЙ КАМПАНІІ "БАЛТЫКА"** да заводу "Крыніца" быў задаволены міжнародным арбітражным камэрцыйным судом пры Гандлёва-прамысловай палаце Расеі. "Балтыка" патрабавала ад "Крыніцы" кампэнсацыі крэдытных сродкаў у памеры 10,5 млн. даляраў, дадзеных у сярэдзіне 2001 г. пад гарантыю беларускага ўраду. Пазоў быў пададзены выключна для выкананьня валютнага заканадаўства Расеі і ня сьведчыць пра спыненьне супрацоўніцтва "Балтыкі" зь беларускім заводам.

**РЭЙС "МЕНСК—ТБІЛІСІ"** ўвяла "Белавія". Зараз зьлятаць у Грузію можна штонядзелю за 183 даляры.

**ВОЛЬНЫЯ ЦЭНЫ НА МЯСА**, кілбасы, сасіскі, сардэлькі і паштэты дазволіў вызначаць вытворцам урад. Затое дзяржава па-ранейшаму рэгулюе цэны на хлеб, нятлустыя малако, кефір, сьмятану і тварог, дзіцячае харчаваньне ды цукар.

**НА ЮВЭЛІРНЫЯ ВЫРАБЫ** перапрафілюецца гомельскае аб'яднаньне "Крышталь". Сыравіннай будуць прамысловыя адкіды золата і срэбра. Пакуль "Крышталь" перапрацоўвае алмазы, але апошнім часам іх імпарт з Расеі рэзка зьменшыўся.

**ІНФЛЯЦЫЯ Ў БЕЛАРУСІ** ў красавіку была 2,9%. Ва Ўкраіне цэны вырасьлі на 1,4%, у Расеі — на 1,2%.

**УНЁСКАЎ НА СКАНЧЭНЬНЕ БУДОЎЛІ** нацыянальнага цэнтру тэнісу патрабуюць зь менскіх прадпрымальнікаў. Малыя структуры бізнэсу мусяць здаць па 300, а буйныя — па 1000 даляраў.

**5%-Ы ПАДАТАК З РАСПАЎСЮДНІКАЎ РЭКЛЯМЫ** будзе браць Менгарвыканкам з 1 ліпеня. Найбольш пацерпяць ад гэтага газэты і часопісы.

**10-РУБЛЁВЫЯ СРЭБНЫЯ** і рублёвыя медна-нікелевыя манэты адбілі на замову Нацбанку да 120-й гадавіны Янкі Купалы і Якуба Коласа. Наклад кожнай срэбнай манэты — 1000, а медна-нікелевай — 2000 асобнікаў.

**КАМПАНІЯ "ІТЭРА"** зьбіраецца напалову скарачаць пастаўкі прыроднага газу ў Беларусь, бо "Белтрансгаз" нібыта своечасова не вяртае пазык. На 10 чэрвеня ён быў вінен "Ітэры" 24,3 млн. даляраў.

**ВУП у студзені—траўні павялічыўся на 4,3% у параўнаньні з аналягічным пэрыядам 2001 г.** Прамысловая вытворчасьць вырасла на 3,1%. На 3,9% вырас аб'ём сельгасвытворчасьці. Толькі вытворчасьць яек зьменшылася на 7%.

С.І.

# Севярынец — Саранчукоў



**У нядзелю, 16 чэрвеня, адбудзецца IV Сойм "Маладога фронту". На пасаду кіраўніка арганізацыі прэтэндуюць дзейны старшыня Павал Севярынец і кіраўнік Гарадзенскай абласной арганізацыі Вадзім Саранчукоў. Прэтэндэнты адказваюць на пытаньні "НН".**

**"НН": Якім каштоўнасьцям мусіць аддаваць перавагу "Малады фронт" – дэмакратычным, хрысьціянскім ці нацыянальным?**

**Павал Севярынец:** "Малады фронт" — гэта *дэмакратычны рух*, які грунтуецца на *нацыянальнай ідэі й хрысьціянскіх прынцыпах*. Уся заходняя цывілізацыя, у якую мы імкнёмся, жыве ў гэтай непадзельнай, узаемазьвязанай і гарманічнай сыстэме каардынатаў: нацыянальная дзяржава, хрысьціянскія каштоўнасьці, дэмакратычны лад. Менавіта іх сукупнасьць і ёсьць сутнасьцю палітыкі "Маладога фронту".

**Вадзім Саранчукоў:** Я — беларускі нацыяналіст. Нацыянальная культура перадае мне хрысьціянскую мараль, а нацыянальная гісторыя вучыць свабодзе. Бог! Гонар! Айчына! — няма чаго аддзяліць.

**"НН": Хто зьяўляецца для Вас аўтарытэтам у палітыцы і жыцьці?**

Я веру ў Бога, і таму для мяне Аўтарытэт і Ідэал як у жыцьці, так і ў палітыцы — Ісус Хрыстос. У асобных прафэсійных сфэрах я зважаю на аўтарытэт шмат якіх людзей: бацькоў, сяброў, знаёмых, вядомых. Вядома, на Васіля Быкава ў прозе, на Зянона Пазьняка ў ідэалёгіі, на Вячаслава Сіўчыка як арганізатара, Вінцука Вячорку як філёляга і г.д. Сярод гістарычных асобаў для мяне ўзоры — апостал Павал і Марцін Лютэр, Абрагам Лінкальн і Шарль дэ Голь, Францішак Скарына й Мікалай Радзівіл Чорны. Сярод сучасьнікаў — Ян Павал II, Рональд Рэйган, Маргарэт Тэтчар, айцец Аляксандар Мень, Алесь Адамовіч — людзі веры й дзеяньня, сапраўдныя духовыя, грамадзкія й палітычныя лідэры.

Ня варта, напэўна, называць прозьвішчы палітыкаў. Галоўнае для палітыка — маральнасьць. На маё маральнае і нацыянальнае выхаваньне вялікі ўплыў зрабілі творы Караткевіча, я захапляюся гэтым геніем Беларусі. Што ж да жыцьцёвага прыкладу, дык гэта, безумоўна, мае бацькі! Такой сіле волі, якая ёсьць у маёй маці, і ўпартасьці ў дасягненьні мэты (гэта пра бацьку) мог бы пазайздросьціць кожны.

**"НН": Па якой акрузе Вы зьбіраецеся балятавацца на мясцовых выбарах?**

Я ня маю намераў балятавацца на мясцовых выбарах. Па-першае, у мяне віцебская прапіска, а кіраваць "Маладым фронтам" трэба зь Менску. Па-другое, рэальных выбараў ня будзе. Максымум — будзе магчымасьць адносна легальна сустракацца зь людзьмі. Вось працаваць зь людзьмі зьбіраюся — і не ў якойсьці адной акрузе, а ў дзясятках гарадоў і мястэчак, куды пляную зьезьдзіць да вясны. Па-трэцяе, замест "выбараў" цалкам верагодны лукашэнкаўскі рэфэрэндум або нейкі "інтэграцыйны акт" — трэба быць гатовым да нечаканага развароту падзеяў. МФ будзе ладзіць сярод моладзі адмысловую кампанію пад мясцовыя выбары.

Я буду балятавацца ў Горадні — горадзе, дзе прайшлі 22 гады майго жыцьця, дзе я ведаю кожны завулак, дзе ўсе знаёмыя. Я буду балятавацца як сябар Партыі БНФ. Цяпер болей ніякіх падрабязнасьцяў...

**"НН": Якую музыку Вы слухаеце?**

Мне падабаецца мэлядычная й рытмовая музыка — арт-рок, хэві-мэтал, рок-апрацоўкі клясыкі, балады, бардаўскія сьпевы. Люблю моцныя ўдарныя, электрагітары й клявішы са скрыпкамі, опэрнае сола й харавыя падпеўкі, усялякія навароты, кшталту запілаў, эфэктаў ці партыі аргану. Зь беларускага гэта "Мясцовы час" пачатку 90-х, натуральна, "NRM", "Уліс", "Новае неба", найлепшыя хіты "Песьняроў", "Я нарадзіўся тут", "Народнага альбому" й "Сьвятога вечару", сёе-тое зь Мельнікава й Шалкевіча. З замежнага — Бон Джові, "*Metallica*", "*Queen*", "*Scorpions*", "*Offspring*", "*Океан Эльзи*", "*Kally Family*".

Мне падабаецца "Бонда", "Стары Ольса", "Новае неба", супольныя праекты ("Народны альбом", "Легенды Вялікага Княства"), з задавальненьнем слухаю гурты "*Metallica*", "*The Cranberries*".

**"НН": Якія газэты чытаеце, якое радыё слухаеце, якія тэлепраграмы глядзіце?**

Праглядаю асноўныя незалежныя газэты — ад "Народнай волі" й "БДГ" да "Камсамолкі". Натуральна, "Наша Ніва". Час ад часу куплю "*Советскую Белоруссию*", "Звязду", "*Известия*", "*Belarus Today*". Калі бываю ў рэгіёнах — гарадзкія газэты й раёнкі. За радыё сачу ў асноўным праз Інтэрнэт ("Свабода", "Рацыя") плюс сайт БелаПАНу. У Віцебску лаўлю этэр, дарэчы, прыймач выйграў калісьці на конкурсе лістоў Польскага радыё. Гляджу навіны — *НТВ*, *ОРТ*, "*Вести*". БТ без Азаронка, Зімоўскага й Казіяткі ўжо нецікавае. Часам, каб адпачыць, — "Першы музычны", хітовае кіно, КВК ці інтэлектуальныя тэлегульні.

Праглядаць імкнуся ўсю прэсу, але чытаць... хіба "Пагоня", з рэдакцыяй якой у мяне добрыя адносіны, і "Наша Ніва". Цяпер вось да "Пагоні" толькі на сайт ды на суд. З радыё ды ТБ складаней: бракуе часу, атрымліваецца паглядзець ды паслухаць выключна праграмы навінаў.

**"НН": За якую зборную Вы хварэеце на чэмпіянаце сьвету па футболе?**

Пахварэеш тут з нашым БТ... Мне найбольш падабаецца футбол клясных эўрапейскіх каманд — зборных Вялікай Брытаніі, Гішпаніі, Партугаліі, Нямеччыны. Але ангельцам заўжды не шанцуе, гішпанцам усё бракуе добрага трэнэра, партугальцы гуляюць надта прыгожа, каб стаць чэмпіёнамі, а немцы... На жаль, немцы павінныя прайграць, каб да восеньскіх фэдэральных выбараў упалі шанцы сацыял-дэмакрата Шродэра. Таму буду хварэць супраць зборнай Расеі — такая ўжо нашая нацыянальная хвароба.

Пакуль зборная Беларусі ня ўдзельнічае ў чэмпіянаце, я хварэю проста за добры, прыгожы футбол.

## навіны за тыдзень

### Помнік Гусоўскаму

**У Магілёве на Першамайскай вуліцы паставяць помнік дзеячу Адраджэньня Міколу Гусоўскаму, аўтару "Песьні пра зубра".** У вуліцу Гусоўскага пераназавуць вул. Леніна. Пра гэта заявіў старшыня гарвыканкаму Віктар Шорыкаў. Помнік паставяць каля былога Дому юстыцыі, куды да 10 ліпеня павінны пераехаць усе службы гарвыканкаму. Абласны і гаспадарчы суды, якія да гэтага месьціліся ў Доме юстыцыі, пераселяцца ў будынак адміністрацыі Ленінскага раёну, а работнікі адміністрацыі, у сваю чаргу, зоймуць правае крыло Дому саветаў, якое вызваліць гарвыканкам. Дагэтуль Магілёў быў адзіным абласным цэнтрам, адміністрацыя якога ня мела свайго будынку. Апроч таго, Шорыкаў кажа, што трэба скасаваць у горадзе Кастрычніцкі, Ленінскі і Цэнтральны раёны і стварыць на іх месцы толькі два — Левабярэжны і Правабярэжны.

### Мажарытарная сыстэма — учарашні дзень?

**Паводле якой сыстэмы будуць адбывацца выбары ў парлямэнт саюзнай дзяржавы, калі яны ўсётакі будуць абвешчаны?** Раней часцей за ўсё называлася мажарытарная. Але дырэктар Інстытуту дзяржавы і права НАН Беларусі ў часе "круглага стала" "Актуальныя пытаньні саюзнага парлямэнтарызму", якое прайшло 10 чэрвеня ў Менску, выказаўся на карысьць мяшанай мажарытарна-прапарцыянальнай сыстэмы. На яго думку, "гэта паспрыяе больш поўнаму ўліку інтарэсаў усіх слаёў насельніцтва падчас выбараў".

### Вайтовіч: інтэграцыя Беларусі ў Эўропу непазьбежная

**На думку Аляксандра Вайтовіча, Беларусь непазьбежна будзе інтэгравацца ў Эўропу.** Пра гэта ён заявіў на сустрэчы з дэлегацыяй Парлямэнцкай асамблеі Рады Эўропы. Старшыня савету рэспублікі таксама даў зразумець, што дыялёг нацыянальнага сходу з эўрапейскімі парлямэнцкімі структурамі быў бы больш эфэктыўным, калі б Беларусь займала сваё месца ў Парлямэнцкай асамблеі АБСЭ.

### Прыватнікі больш сумленныя

**97,5% запазычанасьцяў па падатках прыпадае на дзяржаўныя прадпрыемствы і толькі 2,5% — на прыватныя.** За студзень-красавік найбольш завінаваціліся бюджэту Клімавіцкі лікёра-гарэлачны завод (16,3 млрд. рублёў), Менскі маторны (13,6 млрд.) і трактарны (12,2 млрд.) заводы.

Б.Т.

# “Сьвежая kроў” апазыцыі

**Скванчэньне палітычнага сэзону, падчас якога палітычная апазыцыя нічым асаблівым ня вызначылася, прымушае ў чарговы раз задумацца пра яе будучыню. Адкуль у шэрагі апазыцыі магла б уліцца "сьвежая кроў"? З такімі пытаньнямі "НН" зьвярнулася да экспэртаў — палітолягаў, былых і дзейных палітыкаў, журналістаў.**

## У чаканьні сэнсу

Апазыцыі сёньня патрэбны ня толькі новыя людзі, але і сьвежыя ідэі. Але дзе іх трэба шукаць і што яны павінны ўяўляць сабой? Пра гэта запыталіся мы ў экспэртаў.

Дэпутат Вярхоўнага Савету XII скліканьня **Ўладзімер Новік** лічыць, што апазыцыі трэба зацікавіць сур’ёзных людзей, кожная партыя мусіць прадстаўляць пэўную сацыяльную праслойку грамадзтва, зь якой могуць зьявіцца новыя людзі. Але толькі калі ўзьнікне “новая палітычная сытуацыя”. “А пакуль мы бачым ужо дзесяць гадоў адных і тых жа палітыкаў, “апазыцыянэраў паводле прафэсіі”. Ці зьявіцца новы лідэр, ня ведаю. Магу толькі сказаць, што гэты лідэр павінен прыцягваць, а не адштурхоўваць”, — кажа У.Новік.

Палітоляг **Уладзімер Мацкевіч** на сёньняшні момант ня бачыць ніякай крыніцы “сьвежай крыві”: “Гэта ж не бур’ян, каб само вырастала. Ня трэба чакаць, трэба рабіць, выхоўваць”.

Рэдактар **Сяргей Дубавец** выказвае меркаваньне, што “гаворка ідзе не пра “кроў”, а пра “харызматычную ідэю і тых, хто яе сфармулюе. І гэта будуць людзі маладыя, ня сёньня, а гадоў праз тры-пяць”.

Са словаў У.Мацкевіча, ”сьвежай крывёю” апазыцыі могуць стаць людзі бізнэсу альбо тыя нашыя землякі, якія зьехалі за мяжу на вучобу, “здабылі пэўны досьвед і сацыяльны статус”. С.Дубавец таксама лічыць гэтую групу пэрспэктыўнай, але адзначае, што “яе час прыйдзе гадоў праз пяць”. “Больш слушна шукаць, выхоўваць і падтрымліваць тых, хто сёньня ў другім, трэцім эшалёнах апазыцыйных партый і рухаў”, — кажа У.Мацкевіч.

**Валянцін Голубеў**, гісторык, сябар фракцыі БНФ у Вярхоўным Савеце XII скліканьня, кажа, што ў сёньняшняй сытуацыі трэба, каб барацьба супраць рэжыму ў людзей “асацыявалася з асобаю”. Асоба ж гэтая павінна ўспрымацца большасьцю людзей, “нашых” і “ня нашых”, лічыць В.Голубеў.


IREX-PROMEDIA

Мікола Маркевіч: "А можа, Павал Мажэйка?"

Адкуль могуць зьявіцца ў апазыцыі новыя лідэры са сьвежымі ідэямі?

З шэрагаў тых, хто раней адышоў ад палітыкі, “можна мабілізаваць пэўныя сілы, — мяркуе Ў.Мацкевіч. — Але патрэбны новыя ідэі і патрэбны давер да лідэра. Цяпер гэтыя людзі расчараваныя. Але наўрад ці яны самі здольныя выступіць лідэрамі”, — кажа палітоляг. Пра стомленасьць “былых” гаворыць і С.Дубавец, адзначаючы, што іх “ня любяць у народзе”.

## Асабісты прыклад мужнасьці

Мы пацікавіліся ў экспэртаў, ці бачаць яны сярод былых беларускіх палітыкаў кагосьці, хто мог бы вярнуцца да актыўнай дзейнасьці і выйсьці на першыя ролі? Найперш называліся два прозьвішчы — былых дэпутатаў Вярхоўнага Савету Беларусі XII скліканьня *Міколы Маркевіча* і *Сяргея Навумчыка*.

С.Навумчык ужо сёмы год знаходзіцца ў эміграцыі, працуе на радыё “Свабода”. На думку С.Дубаўца, “рэальна гатовы да цяперашняй палітыкі Навумчык, які мог бы прыйсьці кіраўніком руху, партыі ці блёку, калі б у тых была сапраўдная сацыяльная база і рэальны стратэг Пазьняк”.

М.Маркевіч, рэдактар забароненай уладамі газэты “Пагоня”, дапускае, што калі ўлады будуць і надалей перашкаджаць ягонай прафэсійнай дзейнасьці, то яму, магчыма, давядзецца займацца “чыстай палітыкай”. Сёньня імя Маркевіча не сыходзіць са старонак беларускай незалежнай і замежнай прэсы, яго ведаюць людзі. Судовы працэс над ім і Мажэйкам можа толькі павысіць рэйтынг Маркевіча.


IREX-PROMEDIA

“Апазыцыя ня ў стане выкарыстаць увесь пратэстны патэнцыял грамадзтва, — кажа **Маркевіч**. — Сёньня большасьць нашага грамадзтва супраць Лукашэнкі, але яно не аб’яднанае. Праблема ня толькі ў тым, што Лукашэнка і яго рэжым зробяць усё дзеля таго, каб прасоўваньне гэтых аб’яднаўчых ідэй зьвесьці на нішто, але і ў тым, што па-сапраўднаму ніхто з апазыцыі не займаўся контрапрапагандай, контрагітацыяй, хаджэньнем у народ.

Я думаю, што новы лідэр павінен абавязкова зьявіцца, але ня зь ліку сёньняшняй беларускай апазыцыі, якая стрымлівае зьяўленьне новых лідэраў. Найперш кідаецца ў вочы адсутнасьць у цяперашніх кіраўнікоў апазыцыі валявых якасьцяў, асабістай мужнасьці, адданасьці, энэргіі. Лідэр апазыцыі, акрамя розуму і інтэлекту, у сёньняшняй сытуацыі мусіць дэманстраваць асабісты прыклад мужнасьці”.

## Бізнэсоўцы

Прадпрымальнікі ня першы год пасьпяхова змагаюцца з рэжымам і па-свойму яго перамагаюць. ”Бізнэсоўцы маюць унікальны досьвед існаваньня ва ўмовах беларускай эканамічнай рэальнасьці, і тэарэтычна гэта можна было б скарыстаць і ў палітычных плоскасьцях”, — лічыць **Валеры Булгакаў**, галоўны рэдактар часопісу “Arche”. Аднак ці здолее сёньняшняя апазыцыя прыцягнуць у свае шэрагі гэтых людзей? Цяперашнія апазыцыйныя структуры ня маюць моцнай сацыяльнай базы, у іх няма зваротнай сувязі з большасьцю грамадзтва. Пакуль нельга чакаць палітычнай ініцыятывы і з боку саміх бізнэсоўцаў, пераважна запалоханых і падкантрольных рэжыму. Усё, аднак, можа зьмяніцца падчас нейкіх сацыяльных выбухаў у краіне альбо моцнага пагаршэньня эканамічнай сытуацыі. І было б добра, каб гэта быў сьвядомы выбар людзей, а ня вымушаны крок загнаных у кут прадпрымальнікаў.

## Творчая інтэлігенцыя

Як сказаў украінскі паэт Яўген Маланюк, “калі ж у нацыі няма правадыроў, тады яе правадыры — паэты”. Пісьменьнік **Уладзімер Арлоў** лічыць, што сярод творчай інтэлігенцыі ёсьць людзі, якія маглі б стаць “сьвежай крывёю” для беларускай апазыцыі. “Да такіх асобаў я найперш аднёс бы *Ўладзімера Някляева*, які сам недвухсэнсоўна заявіў пра гэта сваёй пазыцыяй ужо ў часе леташняй прэзыдэнцкай кампаніі”, — кажа Арлоў.

Паэт, былы рэдактар “Крыніцы” У.Някляеў ужо тры гады пераважна жыве за мяжой. Ён сапраўды мае і сувязі, і імпэт палітыка. Размовы пра ягоную палітычную кар’еру пачаліся ўвосень 2001-га, калі У.Някляеў прыехаў у Менск для ўдзелу ў перадвыбарнай кампаніі “адзінага кандыдата”. Ён “засьвяціўся” эмацыйнымі выступамі на мітынгах, але нічым ня змог паўплываць на ходу падзеяў, казаў пра “адсутнасьць энэргетыкі” ў апазыцыі. Зноў зьехаў за мяжу. У красавіку 2002 г. У.Някляеў зрабіўся старшынём праўленьня зарэгістраванага ў Маскве беларуска-расейскага фонду “За новую Беларусь”, у кіраўніцтве якога апынуліся “былыя”: Васіль Лявонаў, Міхаіл Чыгір, Станіслаў Багданкевіч ды інш. Магчыма, для У.Някляева падрыхтаваны добры трамплін у “вялікую палітыку”. Аднак В.Булгакаў скептычна ставіцца да пэрспэктываў У.Някляева, адзначаючы, што за тры гады за мяжой ён ня выявіў прыхільнасьці да нейкай пасьлядоўнай палітычнай праграмы і застаецца сымбалічнай постацыю.

Кампанію У.Някляеву мог бы скласьці і паэт *Сяргей Законьнікаў*, ужо былы рэдактар часопісу “Полымя”. Вымушаны сыход з пасады паставіў Законьнікава перад выбарам: або спрабаваць заснаваць сваё прыватнае выданьне, што зрабіць ня проста, або пайсьці ў палітыку, або проста выехаць некуды за мяжу сьледам за братамі па пяры. Сяргей Законьнікаў пакуль займаецца першым. Неблагую вядомасьць мае ў краіне пісьменьнік *Уладзімер Арлоў*. Аднак, паводле нашай інфармацыі, займацца палітыкай ён не плянуе, аддаючы перавагу творчасьці.

С.Дубавец уважае, што варта чакаць у будучыні зьяўленьня ў палітыцы маладой творчай інтэлігенцыі — тых людзей, якім цяпер па 14—22 гады. “Гэта будзе новае пакаленьне гадаванцаў “Нашай Нівы”, — уважае Дубавец.

## “Бязвольныя апазыцыянэры”

Месцам, дзе гартуюцца палітыкі, па азначэньні зьяўляецца парлямэнт. Калі ўспомнім няпросты шлях да апазыцыйнасьці Вярхоўнага Савету XIII скліканьня, зьяўляецца думка, што лідэраў магла б гадаваць і палата прадстаўнікоў. Яна не прызнаная Захадам і беларускім незалежным грамадзтвам, аднак паступова вылучае з сваіх шэрагаў асобаў, якія маюць прынамсі амбіцыі, а часам дэманструюць і сваю самастойнасьць.


УЛАДЗІМЕР ШЛАПАК

Уладзімер Парфіяновіч умее перамагаць

Можам згадаць такіх дэпутатаў, як *Генадзь Дылеўскі*, алімпійскі чэмпіён *Уладзімер Парфіяновіч* ды інш.

Сярод “палатачнікаў” вылучаецца і генэрал *Валеры Фралоў*. Ён камандаваў 28-м механізаваным корпусам са штабам у Горадні (цяпер — Заходняе апэратыўнае камандаваньне). Фралоў — сябар камісіі па нацыянальнай бясьпецы палаты прадстаўнікоў, а нядаўна ён стварыў дэпутацкую групу “Рэспубліка”, якая, сярод іншага, мяркуе каардынаваць дзейнасьць дэпутатаў ад рэгіёнаў. Актыўнасьць генэрала В.Фралова заўважная. Пасьля зьнікненьня Юр’я Захаранкі ў беларускай апазыцыі ня стала баявітага генэрала. Але такі генэрал мусіць зьявіцца.

Праўда, В.Булгакаў мяркуе, што да гэтых людзей і іх “апазыцыйнасьці” варта ставіцца скептычна, бо яны “гуляюць па правілах, вызначаных адміністрацыяй Лукашэнкі” ці прымальных для яе. Тым больш, ці можна верыць “перабежчыкам”, якія “ішлі на калябарацыю з лукашэнкаўскім рэжымам, а пасьля адхрышчваліся ад яго”, лічыць Булгакаў.

Ня верыць у магчымасьць зьяўленьня апазыцыянэраў з шэрагаў дэпутатаў палаты і С.Дубавец. На яго думку, ”яны ўсе бязвольныя, нават калі імітуюць вольнасьць выказваньняў”.

## Былыя “людзі ўлады”

Зь дзяржаўных пасадаў перайшлі ў шэрагі апазыцыі такія людзі, як Міхаіл Чыгір, Юры Захаранка, Віктар Ганчар, Анатоль Лябедзька, Павал Казлоўскі, Васіль Лявонаў ды інш. Можна прагназаваць, што і надалей апазыцыйныя структуры будуць узмацняцца за кошт былых “людзей улады”. Мае шанцы стаць такім чалавекам былы прэм’ер *Уладзімер Ярмошын*. Праўда, магчыма, у складзе нейкай новай структуры, накшталт фонду “За новую Беларусь”, бо многія апазыцыянэры ня змогуць яму дараваць жорсткага задушэньня страйку менскіх мэтрапалітэнаўцаў у 1995 г. Ярмошын мае рэпутацыю “моцнага гаспадарніка”, вялікі досьвед працы на дзяржаўных пасадах, але цяпер ён беспрацоўны. Чуткі пра ягонае прызначэньне на нейкую ўплывовую пасаду ў кіраўніцтве “саюзнай дзяржавы Беларусі і Расеі” пакуль не пацьвердзіліся.

Чыноўнікі сёньня знаходзяцца пад яшчэ большым прэсынгам спэцслужбаў рэжыму, чым на пачатку праўленьня Лукашэнкі. Акцыі застрашэньня ў выглядзе арыштаў хабарнікаў вельмі эфэктыўныя. Таму гэтая група для апазыцыі непэрспэктыўная, калі, вядома, сваіх людзей на ўзмацненьне апазыцыйных структураў не накіруе сам рэжым.

## Эмігранты

Мы ўжо згадвалі сярод пэрспэктыўных групаў, здольных узмацніць беларускую апазыцыю, беларускіх эмігрантаў, найперш тых, хто выехаў на Захад на вучобу і працу.

Ужо шэсьць гадоў жыве за мяжой і *Зянон Пазьняк*. Ягонае вяртаньне магло б выклікаць ажыўленьне ў шэрагах апазыцыі. Пазьняк сёньня аптымістычна настроены, бачыць сваю нішу на палітычнай сцэне. Праўда, ягонае вяртаньне, на думку С.Дубаўца, можа адбыцца “толькі нейкім рамантычным шляхам”, але сам Пазьняк пад планку “сьвежай крыві” не падыходзіць. Дый сам ён, здаецца, не хацеў бы сваім вяртаньнем сымбалічна прызнаваць “дэмакратызацыю рэжыму”.

Такім чынам, нашы аналітыкі ўжо сёньня шукаюць, адкуль прыйдуць тыя “новыя” людзі. Іншае пытаньне, ці знойдуцца сярод іх здольныя арганізатары, таленавітыя стратэгі, людзі, якія змогуць прыцягнуць пад сваю дзейнасьць беларускія фінансавыя рэсурсы. Многія экспэрты ўпэўнены, што шмат патэнцыйных пэрспэктыўных апазыцыйных палітыкаў цяпер вагаюцца і чакаюць. Яны ня хочуць “стрэліць” раней часу і прыцягнуць да сябе пільную ўвагу спэцслужбаў рэжыму, як ужо не аднойчы было падчас праўленьня А.Лукашэнкі.

**Алег Тачоны**

індыйска-пакістанскі канфлікт

# Амэрыканскія войскі — у Кашмір

**Найлепшы спосаб пазьбегнуць вайны паміж Індыяй і Пакістанам — увод амэрыканскіх войскаў у Кашмір. Было б добра, каб менавіта такую прапанову прывёз у Дэлі міністар абароны ЗША Дональд Рамсфэльд.**



Міністар абароны ЗША Дональд Рамсфэльд (зьлева) і прэм'ер-міністар Індыі Атал Біхары Ваджпаі

Роўна паўгоду — ад нападу на парлямэнт у Дэлі 13 сьнежня — Індыя і Пакістан рыхтуюцца да вайны. І хоць апошнім часам сытуацыя там крыху стабілізавалася, супакойвацца рана: кожны чарговы тэракт, любая правакацыя можа падняць у паветра індыйскія бамбавікі.

Стратэгі з Дэлі верадь, што гэта была б хуткая двух-трохтыднёвая вайна, у часе якой індыйскія сілы зьнішчылі б базы маджахедаў і занялі б ключавыя памежныя тэрыторыі. Заходнія экспэрты, аднак, пабойваюцца, што перад абліччам паразы Ісламабад ужыве свой "галоўны аргумэнт" — атамныя бомбы. Самі пакістанцы гатовыя зрабіць гэта, калі ядзерная атака будзе адзіным сродкам перашкодзіць "зьнішчэньню дзяржавы". У выніку гэтага загінуць ня меней за 12 млн. чалавек толькі з індыйскага боку. Наступствы атамнага канфлікту будуць мець глябальны характар: Генры Кісынджэр перасьцерагае, што нават аднаразовае ўжываньне атамнай зброі зьнішчыць табу на яе, а ўсе высілкі, скіраваныя на яе непашырэньне, выявяцца марнымі.

### Філіпінскі прэцэдэнт

Мяркуючы па нядаўняй актыўнасьці дыпламатаў, міжнародная грамадзкасьць на чале з ЗША ўсьведамляе небясьпеку. Але адных зваротаў да пакістанскіх уладаў, каб утрымалі маджахедаў ад паходаў на Індыю, і да індыйскіх уладаў, каб былі развражлівыя, недастаткова. Найлепшым спосабам прадухіліць буйнамаштабны канфлікт было б пашырэньне сфэры міжнароднай вайны з тэрарызмам на Кашмір — і было б добра, калі б менавіта такую прапанову міністар абароны ЗША Дональд Рамсфэльд прывёз гэтымі днямі ў Дэлі.

Гэтаму ўжо ёсьць прэцэдэнт: на Філіпінах 650 амэрыканскіх салдатаў змагаюцца плячо ў плячо зь філіпінцамі супраць групоўкі "Абу Саяф", якая дзейнічае пад палітычнымі й ісламскімі лёзунгамі. Імкнучыся зьменшыць палітычную цану гэтага рашэньня, урад у Маніле фармальна выдаў амэрыканцам дазвол толькі на навучаньне сваіх вайскоўцаў. Падобна, што індыйская армія, як ніякая іншая, мае патрэбу ў такім "навучаньні", якое дапамагло б ёй ушчыльніць дэмаркацыйную лінію з Пакістанам і эфэктыўней выяўляць пакістанскіх партызанаў.

Рэалізацыя гэтага праекту патрабуе сьмелых рашэньняў аж ад трох урадаў.

Перш за ўсё — ад амэрыканскага. Адкрываючы на Філіпінах другі (пасьля аўганскага) фронт вайны з тэрорам, Вашынгтон ішоў па шляху найменшага супраціўленьня: добразычліва настроены ўрад, слабы (як здавалася) праціўнік... Тым часам, апэрацыя ў Кашміры можа выявіцца цяжэйшай і даўжэйшай, чым змаганьне з талібамі ў Аўганістане. Але, зь іншага боку, індыйска-пакістанская вайна паставіла б пад пагрозу вынікі антытэрарыстычнай кампаніі. У нестабільным Пакістане, уцягнутым у канфлікт з Індыяй, зрабілася б немагчымым супрацоўніцтва амэрыканскіх камандас з пакістанцамі дзеля высочваньня недабітых талібаў і чальцоў "Аль-Каіды". Умяшаньне ў кашмірскую праблему бачыцца ЗША меншым злом.

### Як пераканаць Індыю?

Цяжэй за ўсё будзе дабіцца згоды на прысутнасьць амэрыканскіх войскаў ад Індыі. Яна наагул супраціўляецца ўцягваньню ў канфлікт з Пакістанам трэціх бакоў. Аднак бясконцыя пратэсты індыйскага боку супраць умяшаньня — непасьлядоўныя, бо адначасова Індыя ўвесь час просіць ЗША націснуць на Пакістан. Таму яна змушаная будзе "праглынуць" прыбыцьцё амэрыканскіх дэсантнікаў у Кашмір. Тым больш што амэрыкана-індыйскае вайсковае супрацоўніцтва апошнім часам актывізавалася і Дэлі зацікаўлена ў їм. А калі магчымыя супольныя вучэньні на Алясцы, чаму б не зладзіць такія ж у даліне Кашміру? Нядаўна Індыя прапанавала арганізаваць сумеснае індыйска-пакістанскае патруляваньне кашмірскай "лініі кантролю". Пакістан тады адмовіўся, патрабуючы сьпярша перамоваў. Трохбаковага патруляваньня — з удзелам амэрыканцаў — ад Ісламабаду будзе дабіцца прасьцей.

Індыя зацікаўленая ў стабільнасьці Пакістану. Індыйскія "ястрабы" мусяць пазбыцца ілюзіяў, нібы перамога над суседам у нейкім міфічным "бліцкрыгу" і ўсталяваньне ў Кашміры марыянэтачнага ўраду дазволіць Дэлі рэалізаваць сваю галоўную геапалітычную мэту — узмацніць пазыцыі ў басэйне Індыйскага акіяну ды пашырыць свой уплыў на прасторы ад Віетнаму да Емэну. Ваенны канфлікт якраз можа зрабіць гэтую мэту недасяжнай, бо радыкальная частка мусульманскага сьвету палічыць напад на Пакістан абвяшчэньнем вайны ісламу. А тады Індыя апынецца ў сытуацыі Ізраілю, які заграз у канфлікце зь незьлічонай колькасьцю ворагаў. Ня варта забывацца і пра 130-мільённую мусульманскую меншасьць у самой Індыі.

Згоду на амэрыканскую апэрацыю ў Кашміры мусіць даць і Пакістан. Прэзыдэнт Пэрвэз Мушараф шматразова дэкляраваў змаганьне з узброенымі групоўкамі ісламскіх фанатыкаў і адмяжоўваўся ад тэрарыстычных актаў у Індыі. Але балянсаваньне паміж удзелам у антытэрарыстычнай кампаніі і тайнай падтрымкай маджахедаў толькі аслабляе пазыцыі генэрала Мушарафа. Выйсьцем можа зрабіцца крок напярэд — згода на амэрыканскую акцыю ў індыйскім Кашміры, на сумеснае патруляваньне і нават на аналягічныя антытэрарыстычныя "вучэньні" для пакістанскіх салдатаў. Шмат што сьведчыць пра тое, што ўрад у Ісламабадзе ня столькі ня хоча, колькі ня здольны перашкодзіць пераходу маджахедаў з пакістанскай у індыйскую частку Кашміру. Ранейшая неадназначная Мушарафава палітыка была скіраваная на прадухіленьне бунту часткі арміі ды антыўрадавых выступаў узброеных груповак. Але тая самая небясьпека існавала і лёгка ўвосень, калі генэрал, робячы разварот на 180 градусаў, перастаў падтрымліваць аўганскіх талібаў: ужо тады ісламскія фундамэнталісты яго праклялі, аднак ён здолеў гэта нейк пераждаць. Сёньня Мушарафавай уладзе найбольш пагражае пэрспэктыва вайны з Індыяй, якая найбольш усьцешыла б пакістанскіх паплечнікаў "Аль-Каіды". Вайну слабейшы Пакістан адназначна прайграе, а тады ўладу ў Ісламабадзе можа ўзяць у свае рукі нейкі новы мула Амар.

Гэта выпрабаваньне і для пакістанскай сьвецкай апазыцыі, якая дамагаецца сыходу Мушарафа і вяртаньня дэмакратыі. Амэрыканская інтэрвэнцыя — шанец дасягнуць кампрамісу, у выніку якога было б добра ўсім: прэзыдэнт Мушараф застаўся б на чале дзяржавы, а ў краіне адбыліся б сумленныя, кантраляваныя міжнароднымі наглядальнікамі парлямэнцкія выбары.

### Карысьць для кашмірцаў

Амэрыканская прысутнасьць павінна парадаваць і саміх кашмірцаў, якія наракаюць на жорсткасьць індыйскіх сілаў бясьпекі. Міжнародная апэрацыя дала б ім надзею на перамены ў іхнім цяперашнім нязручным становішчы паміж пакістанскім молатам ды індыйскім кавадлам. Увод амэрыканскіх войскаў у Кашмір прадухіліць вайну, але ня вырашыць самой праблемы, якая палягае ў спрэчным статусе гэтай індыйскай правінцыі з мусульманскай большасьцю. Значных бюджэтных сродкаў, пра якія кажуць улады ў Дэлі, недастаткова. Гэта праблема палітычная, а не эканамічная.

Тут трэба ваенныя захады ў спалучэньні з сур'ёзнымі дыпляматычнымі намаганьнямі. Ідэальным вырашэньнем сталася б мірная канфэрэнцыя з удзелам ЗША, Вялікай Брытаніі, Расеі, Кітаю, у выніку якой Кашмір атрымаў бы шырокую аўтаномію, зацьверджаную на кантраляваным замежнымі наглядальнікамі рэфэрэндуме.

На восень у індыйскім Кашміры запланаваныя мясцовыя парлямэнцкія выбары, але ў сытуацыі, калі ўладу маюць сілы бясьпекі і замаскаваныя баевікі, галасаваньне мае мала сэнсу.

Замірыць Паўднёвую Азію можна. Але гэта запатрабуе ад усіх зацікаўленых бакоў вялікай рашучасьці, цярплівасьці і добрай волі. Тэрарысты любяць каламутную ваду, таму ня спыняць нападаў як у Індыі, так і ў Пакістане, імкнучыся змарнаваць мірныя намаганьні. Вайна пойдзе на карысьць толькі аднаму боку — Асаму бэн Ладэну і ягоным прыхільнікам. У міры зацікаўленыя ўсе астатнія.

*Gazeta Wyborcza*

## навіны

### Спорт на службе палітыкі

**Спартоўцы з Украіны, Беларусі, Эстоніі, Літвы і Латвіі паедуць у Маскву на гульні краін СНД і Балтыі, што праходзяць 14—15 чэрвеня, хоць кансэрватыўныя партыі гэтых краін заклікаюць да байкоту спаборніцтваў.** Літоўцы, напрыклад, гэтымі днямі якраз адзначаюць гадавіну пачатку савецкай акупацыі і масавых высылак у Сібір. Кансэрватары ў краінах захаду былога СССР перакананыя, што гульні — гэта палітычная маніпуляцыя, пры дапамозе якой Расея хоча прадэманстраваць, што былыя савецкія рэспублікі ня выйшлі зь яе сфэры ўплыву.

### Гамакі для малпаў

**Другі тыдзень у Калінінградзкім заапарку працуюць заолягі зь Вялікай Брытаніі Лі Батлер і Джуліян Бафэры.** Яны паляпшаюць умовы жыцьця тамтэйшых малпаў. Прыматам патрэбныя велізарныя вальеры, тады як калінінградзкія гібоны ды шымпанзэ сядзяць у цесных клетках. А кепскія жыльлёвыя ўмовы адбіваюцца ня толькі на здароўі, але й на характары жыхароў заапарку. Дзякуючы ангельскім заолягам, у клетках калінінградзкіх малпаў ужо зьявіліся шыкоўныя гамакі.

**Міхась Васілевіч**

### Этнічная чыстка ў Емэне

**Урад Емэну ва ўмовах поўнай сакрэтнасьці дэпартаваў у Ізраіль блізу 300 емэнскіх габрэяў.** Ён зьбіраецца выслаць з краіны ўсіх габрэяў да аднаго. Як сьцьвярджаецца, гаворка йдзе не аб гвалтоўнай дэпартацыі, а аб "таемным пагадненьні паміж урадамі Ізраілю і Емэну".

### Памёр "хросны бацька" ЗША



**Джон Гоці, галава найбольшага ў ЗША мафіёзнага клану Гамбіна, памёр у панядзелак у турме штату Місуры ад раку горла.** Ягоны клан налічваў 300 "аўтарытэтаў" і 3 тысячы шараговых зладзеяў, якія, сярод іншага, кантралявалі ў Нью-Ёрку вываз сьмецьця, нелегальны таталізатар, прастытуцыю і большую частку тэндэраў на дзяржаўныя падрады. Гоці сябраваў з журналістамі і любіў, калі яго параўноўвалі з Аль Капонэ. Шмат год ён унікаў турмы, падкупляючы прысяжных і забіваючы сьведак. Толькі ў 1991 г. ФБР здолела засадзіць яго за краты з дапамогай сучасных тэхналёгій падслухоўваньня. Рэшту жыцьця ён прасядзеў у падземнай камэры бяз вокнаў.

**Б.Т.**

### Гадоўля вугроў

**У Куршаўскую затоку выпусьцілі 12,5 тыс. малькоў вугра агульнай вагой 122,5 кг.** Звычайна выжывае толькі траціна малечы, так што, як мяркуе старшыня рыбацкай асацыяцыі "*Baltijos zvejas*" Альгірдас Аўшра, праз 5—6 гадоў трэба спадзявацца на 6 тонаў далікатэснай рыбы. У Літве здабыча вугра лічыцца малапрыбытковай справай. Ён задарагі для сярэднестатыстычнага грамадзяніна. Ля мора яго прадаюць па 30—40 літаў (7,5—10 даляраў) за штуку, а вэнджанага — удвая даражэй. Гадуе вугроў толькі адна гаспадарка на ўсю краіну.

**Міхась Васілевіч, "Нёман-Інфарм"**

# Літва мяняе сьцяг

**Літоўская Геральдычная камісія зьвярнулася ў Сойм Літвы з прапановай узаконіць старажытны сьцяг ВКЛ і старажытную выяву Вялікага гербу ВКЛ у якасьці дзяржаўных сымбаляў сучаснай Літвы. Прапанаваны сьцяг цалкам чырвоны зь белай выявай Пагоні.**

Вершнік трымае чорны шчыт з жоўтым крыжам, а хвост каня ўзьняты ўверх. У гістарычнай сымболіцы, што была прынятая ў Беларусі, хвост каня апушчаны ўніз (як на вядомым малюнку 1575 г.). На ўсіх выявах Пагоні ў цяперашняй дзяржаўнай сымболіцы Літвы хвост каня апушчаны ўніз. Узаконіць новы сьцяг можна толькі праз рэфэрэндум.



Праект новага сьцягу Літвы

Колеры і атрыбутыка старажытнага сьцягу ВКЛ ужо выкарыстоўваліся ў сучаснай Літве падчас стварэньня сьцягоў прэзыдэнта Літвы, сьцягу вайсковага флёту, іншых вайсковых фармаваньняў.

Паводле 1-га артыкулу дзейнай Канстытуцыі Літвы, яе дзяржаўны сьцяг — трохколерны, з жоўтага, зялёнага й чырвонага пасаў. У літоўскіх мэдыях і ў Інтэрнэце тым часам ужо зьяўляюцца артыкулы пра падабенства цяперашняга літоўскага трыкалёру да сьцягоў афрыканскіх краінаў — маўляў, як Літве ісьці ў Эўразьвяз са штандарам, які нагадвае сьцягі Сэнэгалу, Малаві ці Конга.

Праект новага дзяржаўнага сьцягу, створаны мастаком Арвідасам Каждайлісам, экспануецца ў фае Сойму, а ў Інтэрнэце выявы сьцягу ёсьць на старонках інфармацыйных агенцыяў ELTA, BNS, DELFI.

**Таццяна Поклад, Вільня**

# Праект захопу неабмежаванай улады

## *Палітычная эканомія беларуска-расейскай інтэграцыі*

**Лукашэнкава настойлівасьць у інтэграцыі з Расіяй і ягонае імкненьне аднавіць палітычны саюз постсавецкіх дзяржаваў разглядаліся некаторымі назіральнікамі як частка яго "двайнога праекту" па канцэнтрацыі ўлады ў сваёй краіне і адначасовай здачы краіне Расіі.**

**Сярод тлумачэньняў гэтаму называліся цесная *эканамічная і вайсковая інтэграцыя* Беларусі з Расіяй: Беларусь залежыць ад энэргетычных рэсурсаў Расіі, прывязана да яе рынку, на якім толькі і можа прадаваць свае неканкурэнтаздольныя тавары, а расійскія ваенныя і геапалітычныя стратэгі нязьменна ўключаюць Беларусь у кола сваіх інтарэсаў.**

***Культурныя вытлумачэньні* завастралі ўвагу на этнічнай, культурнай і моўнай блізкасьці беларусаў і расійцаў, якая ўзмацнялася працяглай русіфікацыяй Беларусі, панаваньнем расійскай праваслаўнай царквы пры адсутнасьці сапраўды нацыянальнай канфэсіі, слабасьцю нацыянальнага руху, а таксама забыцьцём трагічных старонак узаемаадносінаў двух народаў.**

**Былі і *спасылкі на савецкую спадчыну*. Паводле словаў Адама Міхніка, "Лукашэнка — гэта не расійская марыянэтка, а савецкая лялька".**

**Націск на асаблівую ролю савецкай спадчыны й культурнай блізкасьці з Расіяй, якімі тлумачыўся "недахоп нацыяналізму", спрыяў таму, што менавіта ў гэтым сталі бачыць першапрычыны правалу дэмакратызацыі ў Беларусі, перашкоду ўтварэньню як згуртаванай нацыі, так і моцнай нацыянальнай дзяржавы. Таму параза дэмакратыі й страта незалежнасьці былі, з гэтага пункту гледжаньня, лягічныя і ўзаемна абумоўленыя.**

**Чаму ж тады інтэграцыйная палітыка спарадзіла толькі вельмі фармальны саюз дзьвюх краін і чаму яна тармазілася Лукашэнкам кожны раз, калі рабілася магчымым канчатковае аб'яднаньне? Чаму ж Лукашэнка, насуперак сваім інтэграцыйным памкненьням, часьцей і ахвотней заяўляе пра сябе як пра будаўніка нацыянальнай дзяржавы, чым пра палітыка, першаступеннай місіяй якога ёсьць аднаўленьне СССР? Чаму ён заяўляе, што "сувэрэнітэт і незалежнасьць Беларускай дзяржавы — сьвятыя тэрміны для кожнага грамадзяніна"?**

Аргумэнт "савецкай спадчыны" ў гэтым выпадку аспрэчваецца простым фактам: праект рэстаўрацыі Савецкага Саюзу ад пачатку быў асуджаны на няўдачу дзеля велізарнага адрозьненьня палітычных і эканамічных сыстэмаў дзьвюх краін і той акалічнасьці, што Расія, непазьбежны стрыжань новага альянсу, занадта зьмянілася, каб весьці свае колішнія "рэспублікі-сёстры" назад у мінулае. Дый якім чынам дэкляраваная адмова ад нацыянальнай незалежнасьці і сувэрэнітэту магла спалучацца з умацаваньнем у Беларусі аўтарытарнай сыстэмы кіраваньня? Якім чынам працэс інтэграцыі мог адбывацца паміж краінамі з розным палітычным і эканамічным ладам?

Усе палітычныя, эканамічныя і культурныя чыньнікі, акрэсьленыя вышэй, адыгрывалі істотную ролю ў фармаваньні дынамікі беларуска-расійскіх дачыненьняў на працягу апошняга дзесяцігодзьдзя. Яны, аднак, не спрацоўваюць пры вызначэньні найважнейшай рухальнай сілы інтэграцыйнага працэсу. На нашу думку, беларуска-расійская інтэграцыя была адной з стратэгій прэзыдэнта Лукашэнкі, накіраваных на канцэнтрацыю ўлады. Адносіны паміж Беларусяй і Расіяй былі часткай унікальнага Лукашэнкавага праекту па стварэньні ў сваёй краіне сыстэмы неабмежаванай улады і ейнай стабілізацыі. Прынамсі ў пачатковы пэрыяд ход і ўмовы беларуска-расійскай інтэграцыі не навязваліся Лукашэнку, а ўстанаўляліся ім. Магчымасьць вызначэньня ўмоваў беларуска-расійскага ўзьяднаньня забясьпечыла беларускаму прэзыдэнту:



— гарантаваную падтрымку расійскіх палітычных і эканамічных элітаў у ягонай барацьбе за ўладу;

— істотныя эканамічныя палёгкі з боку Расіі, якія спрыялі адноснаму посьпеху Лукашэнкавай эканамічнай мадэлі і дазволілі не дапусьціць больш-менш значнай унутранай дэстабілізацыі і народнага нездавальненьня ягонай палітыкай;

— мінімізацыю вынікаў міжнароднай ізаляцыі праз пабудову "альтэрнатыўнай" сыстэмы міжнародных стасункаў у абход эўрапейскіх інстытутаў;

— нарэшце, становішча, няхай часовае, уплывовага незалежнага гульца на расійскім палітычным полі.

Разглядаючы адносіны паміж дзьвюма краінамі выключна як палітычны праект, я адхіляю два процілеглыя пункты гледжаньня, адзін зь якіх сьцьвярджае, што інтэграцыя ператварыла Беларусь у "частку Расіі ва ўсім, апрача назвы" (Сэмюэл Гантынгтан, 1998), а другі настойвае на тым, што аб'яднаньне вылілася ва ўтварэньне нейкай чыста віртуальнай канструкцыі. Насупраць, гэты працэс і яго вынікі моцна залежалі ад суладнасьці паміж Лукашэнкавымі амбіцыямі ў дачыненьні як да Беларусі, так і да Расіі, з аднаго боку, і поступам расійскай унутранай і замежнай палітыкі — з другога.

### Інтэграцыя за Кебічам і Шушкевічам

Крах камуністычнай партыі ў жніўні 1991 г. перадаў уладу ў рукі ўраду і Вярхоўнаму Савету, у якім пераважалі прадстаўнікі партыйна-савецкай намэнклятуры ды кіраўнікі дзяржаўных прамысловых і сельскагаспадарчых прадпрыемстваў. Ні першыя, ні другія не былі гатовыя да кіраваньня незалежнай краінай, дый не адчувалі захапленьня ад такой пэрспэктывы. Беларусь у колішнім СССР выконвала ролю "зборачнага цэху", для якога ўвесь Саюз, і ў першую чаргу Расія, быў свайго роду сыравінным прыдаткам. Беларусь, дзе жыло 3,5% насельніцтва СССР, вырабляла 4,2% яго ВУП, апярэджваючы ў гэтых суадносінах усе астатнія рэспублікі. Каля 50% беларускіх прадпрыемстваў знаходзіліся пад юрысдыкцыяй саюзных (разьмешчаных у Маскве) міністэрстваў, і больш за палову індустрыяльнай прадукцыі Беларусі даваў ваенна-прамысловы комплекс. Рэальнае значэньне Беларусі ў параўнаньні зь іншымі рэспублікамі насілу паддавалася ацэнцы. Такое становішча забясьпечвала станоўчы гандлёвы балянс ва ўнутрысаюзным гандлі (што давала нагоду беларускай апазыцыі для заяваў наконт эксплюатацыі Беларусі саюзным цэнтрам), які, аднак, у вялікай ступені быў вынікам заганнай цэнавай палітыкі, што спрыяла неравытворчасьці гатовай прадукцыі. Праз усё гэта Беларусь за саветамі, можна лічыць, атрымлівала выгаду ад выдаткаў каманднай эканомікі. І няма дзіва, што пазьней урадоўцы і прамысловыя лабісты бачылі ў захаваньні статусу-кво альтэрнатыву рэфармаваньню нацыянальнай эканамічнай сыстэмы. І калі Савецкі Саюз распаўся насуперак волі беларускай эліты, урад Кебіча па інэрцыі працягваў праводзіць старую эканамічную палітыку, канцэптуальна распрацаваную яшчэ ўвосень 1990-га.

Найважнейшым крокам у замежнай палітыцы, зьдзейсьненым адразу пасьля распаду СССР, было прынятае Шушкевічам і Кебічам рашэньне ўстрымацца ад удзелу ў Дамове аб калектыўнай бясьпецы краінаў СНД, абумоўленае Дэклярацыяй аб дзяржаўным сувэрэнітэце 1990 г., якая абвяшчала пра імкненьне Беларусі да нэўтральнага і бязьядравага статусу. У той час ён быў амаль не заўважаны расійскімі палітычнымі элітамі, для якіх была больш актуальнай барацьба за ўладу паміж ельцынскім урадам і пракамуністычнай бальшынёй у Вярхоўным Савеце. Абвяшчэньне Беларусяй нэўтральнага статусу было, такім чынам, пабочным прадуктам постперабудовачнай інэрцыйнай палітыкі і ў сапраўднасьці ніколі не ўспрымалася ўсур'ёз "партыяй улады".

Ключавым інтарэсам Кебіча і ягоных прыхільнікаў у парлямэнце ў той час было захаваньне адзінай рублёвай зоны і ранейшых умоваў гандлю з Расіяй, якія пратрымаліся амаль да другой паловы 1993 г. Адзіная рублёвая зона пакідала Цэнтральнаму банку Расіі статус манапаліста ў сфэры грашовай эмісіі, але дазваляла і цэнтральным (нацыянальным) банкам іншых рэспублік выдаваць крэдыты для прадпрыемстваў альбо для пакрыцьця бюджэтнага дэфіцыту, г.зн. ствараць "пустыя рублі". Расійскі Цэнтрабанк фактычна вымушаны быў цыраваць дзіркі ў бюджэтах рэспублік, што ўтварыліся праз друкаваньне тых рублёў. Беларусь пакрыла такімі трансфэртамі 13% свайго ВУП у 1992-ім і 8% ВУП за сем месяцаў 1993 г., аж пакуль рублёвая зона не спыніла свайго існаваньня. Рублі, якія выпускаліся ў абарачэньне, напрыклад у Беларусі, мелі такую ж вартасьць у Расіі ці Казахстане. Дзякуючы гэтаму ўрады і нацыянальныя банкі невялікіх постсавецкіх рэспублік маглі не зважаць на бескантрольную эмісію супольных рублёў, паколькі інфляцыйныя эфэкты "расьцярушваліся" па ўсёй постсавецкай прасторы. У адрозьненьне ад Украіны, якая выйшла з рублёвай зоны ў 1992 г., Беларусь карысталася яе перавагамі амаль на восем месяцаў даўжэй. Апроч таго, каб кампэнсаваць дэфіцыт расійскіх наяўных грошай, які ўзьнік у выніку новай грашова-крэдытнай палітыкі Расіі, пачатай у першай палове 1992 г., Беларусь увяла сваю ўласную сурагатную валюту — беларускі рубель, які першапачаткова канвэртаваўся да расійскага ў суадносінах 1:1. Статус "вольнага пасажыра" даў беларускаму ўраду магчымасьць надрукаваць дастаткова грошай для таго, каб выплаціць заробкі і крэдытаваць дзяржаўныя прадпрыемствы ды калгасы, пры гэтым церпячы толькі частку інфляцыйных выдаткаў.

Яшчэ адной першаступеннай Кебічавай задачай у той час было забясьпечыць пастаўку расійскай нафты і газу па цэнах расійскага ўнутранага рынку. Гэта выратавала б беларускую эканоміку ад спаду вытворчасьці й гіпэрінфляцыі, якія тады ж напаткалі Ўкраіну (тагачасная эканамічная палітыка дзьвюх краін была амаль ідэнтычная), падоўжыла б палітычнае жыцьцё беларускай "партыі ўлады", цешачы яе надзеямі на мажлівасьць пазьбегнуць у найбліжэйшай будучыні буйных эканамічных рэформаў.

Маючы безахвоцьце да дзяржаўнага будаўніцтва, але затое вялікія палітычныя амбіцыі, якія палягалі ня толькі ў захаваньні статусу-кво, "партыя ўлады" была гатова заплаціць пэўную палітычную цану за фінансавыя саступкі. Ужо ў верасьні 1992 г. Кебіч падпісаў дамову аб вайсковым супрацоўніцтве з Расіяй, якая падоўжыла тэрмін знаходжаньня расійскіх войскаў на тэрыторыі Беларусі да 2000 г. У сакавіку 1993-га беларускі ўрад прыняў рашэньне адмовіцца ад нэўтральнага статусу Беларусі і далучыцца да Дамовы аб калектыўнай бясьпецы краінаў СНД пры ўмове, што Расія будзе працягваць пастаўкі танных энэрганосьбітаў. Мяркуючы, што прывілеяванае становішча ў рублёвай зоне і забесьпячэньне таннымі энэргарэсурсамі могуць трываць вечна, Кебічаў урад у верасьні 1993-га без ваганьняў падпісаў папярэдняе пагадненьне аб аднаўленьні рублёвай зоны з Расіяй, якое прадугледжвала паўторнае ўвядзеньне расійскага рубля ў якасьці адзінага плацежнага сродку, выкананьне Расіяй абавязаньняў па пастаўцы ў Беларусь танных энэргарэсурсаў і дэкляравала раўнапраўны ўдзел дзьвюх краінаў у выпрацоўцы манэтарнай палітыкі. Кебіч абяцаў, што, як толькі грашовы саюз будзе ўкладзены, кошт нафты для беларускіх спажыўцоў адразу ўпадзе з васьмідзесяці да пяцідзесяці пяці даляраў ЗША за тону.

Мэханізм аб'яднаньня грашовых сыстэмаў прапаноўваўся амаль што нерэальны. Умова, якая прадугледжвала абмен беларускіх рублёў на расійскія па курсе 1:1, не магла быць выканана з той простай прычыны, што пасьля ліпеня 1993-га ўзровень інфляцыі ў Беларусі быў у некалькі разоў большы, чым у Расіі. Зрабілася ясна, што пагадненьне служыць перш за ўсё палітычным мэтам Кебіча, якому заманулася стаць прэзыдэнтам Беларусі, дарма што гэтая пасада яшчэ нават не была зацьверджаная парлямэнтам.

Існавалі дзьве эканамічныя й палітычныя канцэпцыі, якія падагравалі антысаюзныя настроі як у Беларусі, так і ў Расіі. У Беларусі прынцыповым апанэнтам Кебічавага праекту па аб'яднаньні грашовых сыстэмаў выступаў БНФ, які настойліва заяўляў, што адмова ад нацыянальнай валюты ў сукупнасьці з распродажам найбольш каштоўнай дзяржаўнай маёмасьці расійскаму капіталу і каапэрацыяй з Расіяй у вайсковай сфэры цалкам пазбавіць Беларусь нованабытай незалежнасьці. У той жа час, Шушкевіч пярэчыў толькі супраць адмаўленьня ад нэўтралітэту, але ўхваляў грашовы саюз пры ўмове, што той будзе заснаваны на раўнапраўнасьці Беларусі і Расіі ў вызначэньні манэтарнай палітыкі ўнутры рублёвай зоны. У Расіі аднымі зь першых супраць расійска-беларускай інтэграцыі выступілі лібэральныя рэфарматары ельцынскага кабінэту. Асноўным довадам лібэралаў супраць ідэі грашовага саюзу была Кебічава непрыхільнасьць да рынкавых рэформаў. Гэта, сьцьвярджалі яны, пагражала змарнаваць намаганьні, прыкладзеныя імі для фінансавай стабілізацыі ў Расіі. Апроч таго, лібэралы мелі ў запасе і другі аргумэнт: Кебіч пэўны час рабіў стаўку на парлямэнцкага сьпікера Руслана Хасбулатава — лідэра кааліцыі камуністычных ды нацыяналістычных груповак, што ўтварылася ў Зьезьдзе народных дэпутатаў. Знамянальна, што Хасбулатаў езьдзіў у Менск на перамовы з Кебічам у сакавіку 1993-га, калі Ельцын абвясьціў пра сваё рашэньне распусьціць Зьезд. У Менску ён заявіў пра пачатую супраць Ельцына працэдуру імпічмэнту, якая ў канчатковым выніку праваліліся. І хоць Кебіч застаўся на баку лідэраў краінаў СНД, якія на менскім саміце ў красавіку, напярэдадні расійскага рэфэрэндуму аб даверы прэзыдэнту, пастанавілі падтрымаць Ельцына, ягоны флірт з расійскай апазыцыяй працягваўся. Праз некалькі месяцаў на ягоныя запросіны Беларусь наведала група палітыкаў і эканамістаў — прыхільнікаў Хасбулатава, каб перасьцерагчы тутэйшую публіку наконт згубнасьці эканамічнай праграмы Ельцына і давесьці неабходнасьць ейнага згарненьня. Нават пасьля таго як Ельцын атрымаў падтрымку сваёй палітыкі на рэфэрэндуме, рэгулярныя кантакты паміж беларускімі дэпутатамі, якія падтрымлівалі Кебіча, і прыхільнікамі Хасбулатава працягваліся ўсё лета 1993 г. У адну з дэлегацыяў, пасланых Кебічам у расійскі парлямэнт з мэтай дамовіцца пра зьніжэньне цэн на энэрганосьбіты і ануляваньне беларускай запазычанасьці за газ і нафту, увайшоў і тады яшчэ малавядомы дэпутат Аляксандар Лукашэнка. Кебіч, імкнучыся захаваць свой эканамічны курс і палітычнае дамінаваньне "партыі ўлады", ставіў на зьмену крамлёўскага атачэньня. У такім кантэксьце сабатаваньне дамовы аб грашовым саюзе зрабілася для ельцынскіх рэфарматараў часткай буйнамаштабнай барацьбы за працяг рэформаў у Расіі.

Пасьля роспуску Зьезду і здушэньня кастрычніцкага антыельцынскага мяцяжу крамлёўскія лібэралы атрымалі, здавалася, усю паўнату ўлады, і пэрспэктывы грашовага ці якога-небудзь іншага саюзу зь Беларусяй выглядалі пахаванымі назаўсёды. Двума месяцамі пазьней, аднак, посьпех нацыяналістаў і камуністаў на выбарах у Думу палічыў дні каманды Гайдара. (На наступны дзень пасьля галасаваньня ў Расіі Лукашэнкаў антыкарупцыйны даклад незваротна памяняў расстаноўку сілаў на палітычнай арэне і ў Беларусі.) На працягу месяца пераважная яе частка была заменена прадстаўнікамі "старой гвардыі", якія значна прыхільней ставіліся да прапановаў Кебіча наконт саюзу і, што немалаважна, падзялялі ягоную перакананасьць наконт спрыяльнага ўплыву грашовай эмісіі на ажыўленьне нацыянальнай эканомікі. Зьнікненьне крамлёўскай падтрымкі рэфарматарскіх сілаў у Беларусі, відавочна, вырашыла лёс Станіслава Шушкевіча, аднаго зь нямногіх працўнікаў інтэграцыі сярод беларускага кіраўніцтва, які быў зьняты з сваёй пасады 26 студзеня 1994 году. "The Economist" адрэагаваў на ягоную адстаўку артыкулам "Забудзьцеся пра Belo" (маючы на ўвазе *Belorussia*, ангельскую трансьлітарацыю назвы краіны, прынятую за савецкім часам, другая частка якой была ідэнтычная назьве Расіі).

У цэлым ідэя грашовага саюзу, гэтак жа як і адносіны з Расіяй, эксплюатавалася ў эпоху Кебіча "кансэрватыўнай" беларускай намэнклятурай, якая ўзяла ў свае рукі ўсе вагары ўплыву і ўмела ўжывала іх для абароны ўласных інтарэсаў. Гэтая ашуканская палітыка была заснаваная на выкарыстаньні патэрналісцкіх настрояў насельніцтва, якое кармілі невыканальнымі абяцанкамі "таннага паліва" і "аднаўленьня гаспадарчых сувязяў". Лукашэнка толькі працягваў гэтую ж палітыку — але зь іншым імпэтам і амбіцыямі.

**Віталь Сіліцкі**

**Працяг будзе.**

Гэты артыкул — урывак з дасьледаваньня "Палітычная эканомія беларуска-расійскай інтэграцыі", якое будзе цалкам надрукаванае ў кнізе "Беларуска-расійская інтэграцыя", што выйдзе з друку ў ліпені ў выдавецтве часопісу "Arche".

# Японскі гіпапатам

## *Ці футбольны чэмпіянат выведзе краіну з зацяжнога эканамічнага крызысу*

**Сканчэньне чарговага фінансавага году большая частка насельніцтва 126-мільённай Японіі ўжо колькі гадоў запар сустракае ў трывожным чаканьні. Аднак сёлета сытуацыя асабліва абвастрылася: банкаўскі сэктар краіны быў за адзін крок ад краху. Дзесяцігадовы застой давёў японскую эканоміку ды фінансавыя ўстановы, якія абслугоўваюць яе, да такога хваравіта-кволага стану, што многія назіральнікі прадказваюць ужо ці лятальны зыход, ці інваліднасьць — трэцяга, маўляў, ня дадзена. Крызыс другой паводле памераў эканомікі сьвету, на долю якой прыпадае каля сёмай часткі тавараў ды паслуг, што вырабляюцца і спажываюцца на плянэце, непазьбежна б'е па гаспадарцы практычна ўсіх кантынэнтаў і можа перарасьці ў шматгадовую дэпрэсію.**

Японскую эканамічную сыстэму, посьпехам якой дзівіліся і нават зайздросьцілі, цяпер усё часьцей параўноўваюць зь вялізным і нязграбным цяжкахворым бэгемотам, які цялёпкаецца ў багне эканамічных няўдачаў, што засмоктвае яго ўсё глыбей. На мяжы 90-х краіна, дзе жыве 2% насельніцтва плянэты, выробляла пад 20% сусьветнага ВУП. Цяпер гэты паказьнік складае 13,8%.

Леташняе рэзкае пагаршэньне сусьветнай каньюнктуры, якое толькі паказытала нэрвы амэрыканскім банкірам, пагрузіла эканоміку Японіі ў стан трэцяй за апошняе дзесяцігодзьдзе і найцяжэйшай з часоў сканчэньня другой сусьветнай вайны рэцэсіі. Да максымальнага ўзроўню падскочыла колькасьць карпаратыўных банкруцтваў. Каля 70% японскіх фірмаў не атрымліваюць прыбытку ўвогуле (у Беларусі — 47%). Дый адкуль яму ўзяцца, калі краіну ўжо столькі гадоў запар перасьледуе дэфляцыя, якая, поруч з вартым жалю станам банкаўскага сэктару, зьяўляецца адной з галоўных японскіх праблемаў.

**Міністар фінансаў Японіі Масаюра Шыякава: "Ці задаволены народ маёй палітыкай?"**

Гэтыя праблемы ўплываюць адна на адну і тым самым пагаршаюць становішча. Апошнія тры гады спажывецкія цэны падаюць няспынна, прычым усё хутчэйшымі тэмпамі, якія дасягнулі ў студзені максымальнага за апошнія 30 гадоў узроўню. Пры гэтым Токіё працягвае заставацца найдаражэйшым горадам на плянэце: кошт жыцьця ў ім у сярэднім на 30% вышэйшы, чым у Нью-Ёрку.

Зьніжэньне цэн робіць нявыгаднай інвэстыцыйную дзейнасьць. Рэальная вартасьць крэдытаў, нават узятых пад мінімальны (практычна нулявы) намінальны працэнт, расьце, а тавары і паслугі — таньнеюць, робячы нерэнтабэльнай іх вытворчасьць. Падзеньне аб'ёмаў вытворчасьці — на 7,9% за 2001 г. — можна параўнаць толькі з тым, што назіралася больш за чвэрць стагодзьдзя таму падчас апошняга нафтавага шоку. Мізэрнасьць даходаў карпарацый прыводзіць да зьмяншэньня іхных капітальных інвэстыцый. Карпарацыі лічаць за лепшае скарачаць працоўны тыдзень, а не работнікаў і дагэтуль маюць у штаце велізарную колькасьць так званых "мёртвых душ". І ўсё-такі хвалёная японская сыстэма пажыцьцёвага найму пачала лопацца па швох — беспрацоўе таксама падскочыла да рэкорднага за 50 гадоў узроўню ў 5,6%. Але нават гэтая афіцыйная лічба, на думку незалежных экспэртаў, вельмі заніжана. Рэальны паказьнік ацэньваецца недзе ў 8,5% ад эканамічна актыўнага насельніцтва.

Усьведамляючы прывіднасьць надзей на хуткае і лёгкае аздараўленьне эканомікі і, адпаведна, паляпшэньне сытуацыі на рынку працы, простыя японцы намагаюцца як мага больш адкласьці на "чорны дзень" — узровень ашчаджэньняў у краіне дасягнуў рэкордных значэньняў. Дарэчы, японская нацыя — адна з найбагацейшых на плянэце, яе сукупныя ашчаджэньні складаюць 12 трлн. даляраў. З пункту гледжаньня радавога спажыўца, зьніжэньне цэнаў — манна нябесная. Калі вы ўпэўненыя ў заўтрашнім дні і добра зарабляеце, дык гэты працэс толькі павышае ваш дабрабыт. Аднак калі тысяча енаў у вашым кашальку, насуперак асноўным прынцыпам тэорыі фінансаў, заўтра будзе каштаваць даражэй, чым сёньня, а грошы праз год можна будзе зьняць з дэпазыту і патраціць з намнога большай карысьцю, дык навошта сьпяшацца рабіць гэта цяпер? Вось і выходзіць, што прыватнае спажываньне, на якое прыпадае 2/3 ВУП, расьці не зьбіраецца: аб'ёмы розьнічных продажаў зьмяншаюцца пяць гадоў запар. Уся эканоміка, адпаведна, таксама буксуе.

Чарада ўрадаў намагалася зрушыць эканоміку зь мёртвага пункту. За тыя самыя дзесяць апошніх гадоў "на псю маць" пайшло пад 1,2 трлн. даляраў. А дзяржаўная запазычанасьць з пачатковых 60% падскочыла да 130—140% ВУП — гэта найгоршы паказьнік ва ўсім прамыслова разьвітым сьвеце. Рэсурсаў для яе пагашэньня ў Токіё няма, а абслугоўваньне ўжо сёньня зьядае звыш траціны ўсіх бюджэтных паступленьняў. А даўгі дзяржавы і надалей будуць расьці. Вось чаму іхны крэдытны рэйтынг ужо даўно не ацэньваецца найвышэйшым (AAA) разрадам. Агенцтва *"Moody's"*, якое ў сьнежні ў чарговы раз зьніжала ацэнку якасьці японскіх урадавых даўгавых абавязацельстваў, ізноў рыхтуецца да гэтай апэрацыі. Прычым пагаршэньне рэйтынгу чакаецца сур'ёзнае, і, калі яно адбудзецца, Японія па гэтым паказьніку зраўнуецца з Батсванай. Многія пэнсійныя і страхавыя фонды ў адпаведнасьці з уласнымі статутамі і нормамі рэгуляваньня дзейнасьці будуць вымушаныя пазбыцца японскіх аблігацыяў, страціўшы права ўкладаць у іх сродкі.

Пакуль што для Японіі крэдытны рэйтынг — ня больш чым пытаньне прэстыжу. Звыш 90% усіх дзяржаўных даўгавых абавязацельстваў належыць нацыянальным інвэстарам. Але нават яны, пры ўсёй сваёй лаяльнасьці і адданасьці "роднай дзяржаве", усё актыўней шукаюць альтэрнатывы на замежных рынках і на рынку золата.

Японцы схільныя ня толькі да бюджэтных ін'екцыяў. Іншы традыцыйны мэтад стымуляваньня іхнае эканомікі — маніпуляваньне замежным абменным курсам нацыянальнай валюты. У канцы мінулага году Токіё з дапамогай Вашынгтону, праігнараваўшы пратэсты іншых асноўных гандлёвых партнэраў, дамогся няяўнай 10-працэнтнай дэвальвацыі ены. Цяпер дзейснасьць гэтага мэтаду шмат хто бярэ пад сумнеў: попыт на японскія тавары зьмяняецца мала, а для падвышэньня прадукцыйнасьці эканомікі на адзін поўны працэнт, паводле падлікаў аналітыкаў, трэба абясцэніць японскую валюту да ўзроўню 200 енаў за даляр (цяпер курс складае 130 енаў за даляр). Прычым курсы валютаў у суседніх краінах мусяць застацца на ранейшым узроўні, а гэта ўявіць надзвычай складана.

Японская фінансавая сыстэма мае велізарныя памеры. У першай пяцёрцы найбольшых у сьвеце банкаўскіх холдынгаў — чатыры японскія, прычым найбольшы зь іх, *"Mizuho Financial Group"*, распараджаецца актывамі на суму, што перавышае трыльён (!) даляраў. Але ўся бяда ў тым, што гіганцкія габарыты японскіх банкаў ужо нават не ствараюць ілюзіі іхнай фінансавай магутнасьці. Шмат хто пэсымістычна ацэньвае рэальную плацежаздольнасьць японскага банкаўскага сэктару ў нязначную для маштабаў гэтай краіны суму — 56 млрд. даляраў (менавіта столькі ў 1998 г. было выдаткавана на яго аздараўленьне). Шматгадовая заганная практыка крэдытаваньня прывяла да вельмі сумных вынікаў.

Згодна з афіцыйнай статыстыкай, на балянсах японскіх банкаў мёртвым грузам вісяць нявернутыя крэдыты на 550 млрд. даляраў. І прыблізна столькі ж за апошняе дзесяцігодзьдзе ўжо было сьпісана: новыя дзіркі растуць хутчэй, чым іх удаецца цыраваць. Дый афіцыйная лічба, на думку незалежных экспэртаў, вельмі заніжаная. Рэальны паказьнік складае 1,1—1,2 трлн. даляраў — прыблізна столькі ж тавараў і паслугаў стварае за ўвесь год эканоміка Італіі, што ўваходзіць у лік найбуйнейшых на плянэце. А паводле ацэнак такой аўтарытэтнай інвэстыцыйнай установы, як *"Goldman Sachs"*, нявернутыя крэдыты дасягаюць 1,8 (!) трлн. Толькі тры эканомікі сьвету могуць пахваліцца такім вялікім гадавым ВУП.

Загнаныя ў кут банкі адмаўляюцца выконваць адну са сваіх ключавых функцый — забясьпечваць фінансавымі рэсурсамі эканоміку. Люты стаў 51-м запар месяцам, калі сумарныя аб'ёмы крэдытаваньня ў Японіі скараціліся. Тым часам, асаблівага попыту з боку прадстаўнікоў як малога, так і буйнога бізнэсу таксама не назіраецца. Намаганьні цэнтрабанку краіны, што зьнізіў працэнтныя стаўкі да нулявога ўзроўню і раздае крэдыты направа ды налева, сыходзяць на той самы нуль. Але рэальныя працэнтныя стаўкі, дзякуючы дэфляцыі, застаюцца высокімі. Дый які сэнс банкам займацца крэдытаваньнем? Выдадзены адным зь іх 10-мільярдны крэдыт прыносіць у выніку 278 енаў прыбытку — за гэтыя грошы ў Токіё нават кубка кавы ня купіш, іх стае якраз на пакрыцьцё расходаў па дадзенай пазыцы. Парадаксальна, але факт: нягледзячы на тое, што банк Японіі цяпер "друкуе грошы" як апантаны, яны заўтра робяцца даражэйшымі, чым сёньня! Выкуп дзяржаўных абліґацый на суму каля трыльёна енаў (7,7 млрд. даляраў) на месяц падмацоўваецца штодзённым напампоўваньнем сродкаў на рэзэрвовыя рахункі банкаў. Летась японскі цэнтрабанк павялічыў манэтарную базу ў краіне на 16,5%. Але на рэальным прапанаваньні грошай у эканоміцы, банкаўскім крэдытаваньні ды спажывецкіх цэнах гэта ніяк не адбілася. З-за адсутнасьці адэкватнага павелічэньня аб'ёмаў крэдытаваньня гэтыя грошы ў эканоміку не паступаюць, а цэнавая дынаміка ў краіне застаецца нэгатыўнай. Як зазначыў адзін з рынкавых экспэртаў, "праблемы японцаў не ў адсутнасьці грошай — гэтага ў іх навалам, — а ў няведаньні, як прымусіць гэтыя грошы працаваць, куды іх прыстасаваць і на што патраціць".

Друкуючы грошы і намагаючыся аслабіць ену на замежных рынках, японскі цэнтрабанк ужо давёў уласныя рэзэрвы да фантастычнай сумы — звыш 400 млрд. даляраў. Ён — найбагацейшы на плянэце. Апошнім часам да яго цалкам сур'ёзна пачалі зьвяртацца зь нечаканымі прапановамі — скажам, падумаць пра набыцьцё на рынку ня толькі дзяржаўных, а і карпаратыўных пазыковых абавязацельстваў, нерухомасьці і, магчыма, нават некаторых відаў спажывецкіх тавараў. Можа, хоць дзякуючы гэтаму ўдасца перамагчы нэгатыўную цэнавую дынаміку і дабіцца такой жаданай інфляцыі?

Браць на сябе такую супярэчлівую місію банк ня хоча, абгрунтавана матывуючы гэта магчымым падрывам уласнай рэпутацыі. Замест гэтага яго кіраўнік Масару Хаямі заклікаў урад хутчэй вырашыць праблему нявернутых даўгоў банкаўскага сэктару — за кошт бюджэтных рэсурсаў, ясная рэч. Урад, у сваю чаргу, патрабуе ачысьціць яму прастору для манэўру, падштурхнуўшы эканоміку да росту за кошт манэтарных стымулаў, і выдзяляць новыя сродкі на санацыю банкаўскай сыстэмы пакуль што адмаўляецца. Цяпер сумарная капіталізацыя фондавага рынку ў Японіі складае недзе чацьвертую частку ад свайго піку канца 80-х, прычым за апошнія два гады акцыі карпарацый (а гэта львіная доля банкаўскіх актываў) абясцэніліся напалову. Зьмяншэньне іхнай вартасьці робіць сытуацыю яшчэ горшай.

Пачатак новага фінансавага году адзначыцца дзьвюма важнымі навацыямі. Па-першае, перастануць дзейнічаць дзяржаўныя гарантыі кампэнсацыі ў выпадку банкруцтва таго ці іншага банку дэпазытаў на суму звыш 10 млн. енаў (77 тыс. даляраў). Па-другое, набывае моц урадавая норма, згодна зь якой інвэстыцыйныя ўстановы мусяць улічваць у балянсавых справаздачах вартасьць сваіх фондавых актываў па рэальнай рынкавай (на канец сакавіка), а не пакупной цане. Вось чаму банкаўскім і дзяржаўным чыноўнікам у Японіі цяпер не да футболу — пагроза эканамічнага краху ўсё яшчэ застаецца. Яшчэ ў канцы сакавіка рэзка павялічылася імавернасьць цэлага шэрагу гучных банкруцтваў і пачатку шырокамаштабнага банкаўскага крызысу, які непазьбежна дабіў бы ўсю эканоміку.

Сур'ёзнасьць пагрозы прымусіла ўрад зрабіць рашучыя захады. Апэратарам фондавага рынку было забаронена зьдзяйсьняць "кароткія" продажы акцый (г.зн. ня маючы іх у наяўнасьці). Своечасова прыйшлося і паляпшэньне стану амэрыканскае эканомікі: на долю Злучаных Штатаў прыпадае траціна японскага экспарту. Шмат якія буйныя інвэстыцыйныя інстытуты, сярод якіх — *"Merrill Lynch"* і *"Goldman Sachs"*, параілі сваім кліентам павялічыць долю японскіх каштоўных папераў у інвэстыцыйных партфэлях, паведаміўшы аб сваім намеры зрабіць тое самае. Наступны 20-працэнтны рост індэксу *"Nikkey"* дазволіў усёй Японіі ўздыхнуць зь непрыхаванай палёгкай.

Здаецца, пагроза шырокамаштабнага банкаўскага крызысу ў які ўжо раз "пасьпяхова" мінула. Але так і ня вырашаныя шматлікія японскія структурныя праблемы, з-за чаго пэрспэктывы краіны зрабіліся яшчэ больш туманнымі. Большасьць назіральнікаў сыходзяцца на думцы, што з заканчэньнем працэсу рэпатрыяцыі японскіх капіталаў з-за мяжы каціроўкі акцый працягнуць падаць.

Урад Дзюньітыра Каідзумі за год сваёй работы так і ня здолеў рэалізаваць абяцаныя структурныя рэформы. Ужо абвешчаныя і шырока разрэклямаваныя праграмы ў сапраўднасьці выяўляюцца "ліпай", працягваючы шматгадовую практыку паўмераў. Да таго ж, на новы кабінэт міністраў напала хвароба ягоных папярэднікаў — унутраныя сваркі і карупцыйныя скандалы, якія прымусілі сысьці цэлы шэраг ключавых фігур. Некалі фэнамэнальная папулярнасьць Каідзумі сярод насельніцтва, што дасягала ў момант свайго піку амаль 90%, "нармалізавалася", яшчэ ў студзені зваліўшыся ніжэй за 50-працэнтную адзнаку.

Але найбольш прыкра, што ад Японіі, падобна, ужо паволі пачынаюць адварочвацца яе галоўныя партнэры ў палітыцы і бізнэсе. МВФ, нават пры ўсім жаданьні, дапамагчы ня здолее. Ягоны сукупны рэсурс, што складае каля чвэрці трыльёну даляраў, проста нікчэмны ў параўнаньні з трыццацітрыльённай сумай агульных дзяржаўных і карпаратыўных запазычанасьцяў краіны. Вядома, японскі гіпапатам яшчэ зможа пратрымацца на паверхні доўгія гады: тэхналягічнае лідэрства, што захоўваецца ў многіх галінах, і велізарныя фінансавыя рэсурсы будуць спрыяць гэтаму. Але ці здолее ён калі-небудзь цалкам ачомацца і выбрацца на цьвёрды эканамічны грунт сусьветнага лідэрства, сказаць надзвычай цяжка.

**Раман Бурдыка**

# Вайсковыя лісты

ЭСЭ

**Я ўспамінаю яго кожнага разу, калі хачу зразумець, як і адкуль зьявілася ў нас цікавасьць да беларушчыны, якая стала ўрэшце зьместам нашых заняткаў, а ў выніку — і жыцьця. Відаць, сталася гэта ў той дзень, калі мы разам апынуліся за дзьвярыма стацыянару факультэту журналістыкі. На экзаменах не дабралі балаў і разам пайшлі на вечаровае аддзяленьне.**

На журфак мы зь Ігарам Германчуком паступілі ў 1977-м. Яшчэ жывы Караткевіч, яшчэ Быкаў не напісаў свайго "Знаку бяды", яшчэ не настала пяцігодка палітычных хаўтураў і Брэжнеў трымаецца без "батарэек". На вечаровым журфаку зьбіраецца цёплая кампанія. Мы з Германчуком пасьля працы нудзімся на лекцыях, пачынаем пісаць. Ён радок, я радок, ён радок, я радок. Спачатку апавяданьні, пасьля п'есы і нават раманы. У працэсе да гэтае справы далучаецца Віталь Шхіньян. Гермянчук працуе на паліграфкамбінаце імя Коласа, езьдзіць на аўтакары, Шхіньян — на тэлевізіі, я — у газэце "*На страже Октября*". Апроч таго, знаходзіцца час сустракацца на кватэры. Найчасьцей у Віталя Тараса. Музыку паслухаць, пагаварыць, пабыць разам...

Паездка ў Мір і ўражаньне ад тамтэйшага замку прыводзяць нас зь Ігарам у Ленінку — так тады называлі Нацыянальную бібліятэку.

А яшчэ ў той самы час зьяўляецца ідэя што-небудзь выдаваць. Пасьля мы ўсё жыцьцё будзем друкаваць газэты, часопісы, кнігі. А тады ідэя выданьня зводзілася да стварэньня падпольнай друкарні.

Каб ня войска, тая эпоха не была б так падрабязна і дэталёва зафіксаваная на паперы — у нашых лістах.

"Во, — пісаў мне Ігар, — прачытаў у "Маладосьці" нейкага Кахаnoўскага — дасылаю, — каб жа нам так пісаць".

Мы тады яшчэ ня ведалі нікога з старэйшых і з тых, хто мог бы паспрыяць нам у беларусізацыі. Мы — вельмі вузкае кола: Вінцук Вячорка з сваёй яшчэ ня жонкай Арынай, Гермянчук і я. Мяне забіраюць у войска. Пачынаецца перапіска.

Ігар на паліграфкамбінаце сочыць за ўсім, што там друкуецца. Пра ўсё падрабязна піша мне. Ён таксама сядзіць у бібліятэцы — вышуквае рарытэты, якія пераздымае фотаапаратам. Да прыкладу, паэму "На куцьцю" Янкі Купалы, якая ў той момант лічылася забароненым творам і ў выданьні паэта не ўваходзіла.

Зь ліста ад 30 сьнежня 1978 году, Менск:

"...*Яшчэ ў хуткім часе пойдзе цікавая рэч. "Драўлянае дойлідзтва беларускага Палесься". Даволі тоўстая будзе. Бачыў пакуль толькі вокладку. Намаляваны такі магутны вятрак, потым цэркавак некалькі і яшчэ іншае. Будзе выдавацца кароткая энцыклапэдыя беларуская, пакуль першы том. Напішы, ці браць табе.*

*Зараз займаюся ўвесь свабодны час у Ленінцы, зь Вінцуком часам. Знайшлі "На куцьцю". Гэта такая рэч! Пайду ў нядзелю пераздыму апаратам, потым як-небудзь прывязу, пачытаеш. І "Геаграфію Эўропы" таксама буду пераздымаць. Ня я буду, калі не дастану ўсе творы Караткевіча.*

*Увесь час рыхтаваўся да заліку па "Гісторыі друку Беларусі". Вось сёньня здаў. І ведаеш, як брыдка. Адзіны я толькі адказваў на мове. Што гэта такое, колькі ж гэта цягнуцца будзе? А гэтай Гусевай я так і ня здаў залік. Але ну навошта мне, чалавеку, што ня мае нічога агульнага з "великим народом", ведаць, з чаго пачынаецца "Недоросль" Фанвізіна? Навошта мне Радзішчаў? Тады ўжо давайце будзем і армянскую, грузінскую і іншыя літаратуры вывучаць. Дык не ж. Па нашай літаратуры дык невялічкі курс. А тут і XVIII, і XIX, і XX ст.*"

Ігар паведамляў пра ўсе навінкі свайго "паліграфа", робячы таксама далёкасяжныя назіраньні.

Зь ліста ад 1 лютага 1979:

"*У хуткім часе ў нас будзе выходзіць Быкаў. Там яго апошняя аповесьць "Пайсьці і не вярнуцца" і шчэ штосьці. Барадулін будзе таксама. Шамякіна штосьці. Калі што-небудзь цікава, я прывязу. Але Быкава трэ будзе пачытаць абавязкова. Бо піша ён нядрэнна. Вайна — гэта таксама гісторыя. Для нас яна мо не такая ўсё ж далёкая, але ж нашчадкам патрэбны будзе Быкаў, як зараз нам Караткевіч*".

А ў гэтым лісьце гаворка ідзе пра "капэрты" — так мы называлі заплянаванае нелегальнае выданьне. Ігар выносіў з камбінату літаркі, якіх не ставала для падпольнай друкарні. Запуск выданьня, якое мусіла зьмяшчаць маніхвэст, мы называлі ў лістах "адпраўкай капэрты на конкурс". Гэты запуск адкладаўся. Спрэчкі вяліся вакол спосабу распаўсюду.



Ігар Гермянчук падчас службы ў савецкім войску

Зь ліста ад 5 сакавіка 1979 г., Менск:

"*Ты зноў трымаешся сваёй пазыцыі па распаўсюджваньню капэрт. Вельмі ты ўжо наіўна глядзіш на адпаведныя ўстановы, на іх магчымасьці. Адмаўляеш іх выхад на нас. Штосьці і ты, і мой Вінцук мне не падабаецеся гэтымі сваімі прапановамі. Але зразумейце, што праз гэтыя вашыя шляхі распаўсюду мы вельмі хутка будзем там, дзе камусьці гэта патрэбна. Патрэбны трэці шлях. Трэці! Прамежны! Я ўжо рабіў некалькі сынтэзаў, але вынікі незадавальняючыя. Зразумей, што для сучаснай крыміналістыкі нават папера пахне целам яе ўладальніка. Тут яшчэ думаць, думаць і думаць...*"

Мы не былі антысаветчыкамі. Скажы нам тады пра "вяртаньне да ленінскіх нормаў", мы б пагадзіліся і, бадай, спрычыніліся да яго. Іншая рэч, што мы ў тое вяртаньне ня верылі і гэта змушала нас усё глыбей спазнаваць прыроду ладу, у якім мы існавалі. А гэта ўжо вяло і да перагляду поглядаў на Леніна.

Зь ліста ад 10 траўня 1979 г.:

"*Слухай, Сяргей, у партыю табе трэ ўступіць абавязкова, і мне таксама. Таму што першым пакараньнем нашым у якім-небудзь выпадку будзе выключэньне з партыі. Strata nievialikaja*".

У нашай перапісцы мы ўвесь час згадвалі Мір. Гэта была прыдуманая намі на двух навуковая праца, таксама яшчэ наіўная, але тая, што "заводзіла" і прымушала гадзінамі сядзець у бібліятэцы, перагортваючы сотні кніг па-беларуску, расейску і польску, што мы рабілі, нібы цаліньнікі, унікаючы ў загадкі Сярэднявечча. Чаму, скажам, уладальнік Міру — малады і дужы князь Юры Ільлініч у 20 сваіх гадоў адпісвае Мір у спадчыну хвораму аднагодку князю Радзівілу Сіротку, які ледзьве трымаецца на гэтым сьвеце? Неўзабаве Ільлініч памірае. Каб дазнацца, як гэта ўсё адбылося, трэ было пераворваць горы крыніцаў. Здавалася, што пра гэтую фантастычную руіну — Мірскі замак — ня ведае ніхто ў сьвеце і што нікому яна не патрэбная. А значыць, трэба дашуквацца зьвестак і імкнуцца ўсім пра іх расказаць.

Так мы пазнаёміліся з рэстаўратарам Валянцінам Калніным, аўтарам праекту аднаўленьня Мірскага замку. Калі Ігар застаўся адзін, ён працягваў нашы супольныя пошукі:

"*Ты ня думай, што мы толькі адныя працуем над гэтым. А Калнін? Памятаеш, ён паказваў нейкія пераздымкі архіўных справаў? Дык вось што, я да яго хутка буду зьвяртацца наконт пасяджэньняў па Міру і разам папрашу ў яго ўсе гэтыя дакумэнты. І шчэ што трэ зрабіць, дык гэта схадзіць у выдавецтва "Навука і тэхніка" і паразмаўляць, як яны глядзяць на падрыхтоўку нашай манаграфіі (так, так, манаграфіі). Што? У цябе адразу зьяўляюцца з гэтым словам уяўленьні пра штосьці такое вузканавуковае? Ты памыляесься. Памятаеш манаграфію, такую зялёненькую, Кісялёва, "Пошукі імя"? Дык яна чытаецца як найцікавейшы дэтэктыў*".

Гэта быў яшчэ адзін важны мэтадалягічны пошук — куды прыкласьці сілы, у якім жанры і ў якой галіне рэалізаваць сябе — пісаць раманы ці вершы (зрэшты, мы ўжо пладзілі і першае, і другое) ці сур'ёзна займацца гісторыяй ці мовазнаўствам. Нібы Мірскі замак, уся агромністая Беларушчына бачылася нам закінутай і нікому непатрэбнай. І толькі грунтаўней унікаючы ў яе, мы раптам сустракалі людзей, якія даўно і ўпарта займаюцца беларушчынай. На журфаку быў такі выкладчык мовы Мікола Каваленка.

Ігар пісаў лісты на занятках, проста з натуры. Да прыкладу, 11 красавіка 1979 г.:

"*У Барадуліна ёсьць цікавыя радкі:*

Менск.
Продак струны ціха кратаў.
Менск.
Правяраў лязо мяча.

*І ўсё ў такім стылі. Гэта Мікола Каваленка прыводзіў такія прыклады па назыўным сказе. Дарэчы, на апошнім занятку гэты ж Мікола вось што сказаў: "Во да якога фіналу дайшлі. Нават цяжка знайсьці чалавека сярод журналістаў, які б валодаў жывой мовай народу". Гэта ён расказваў пра Бураўкіна, які наведаў студэнтаў-выпускнікоў журфаку. І, цікавячыся, як яны адносяцца да мовы і ўвогуле да Беларусі, на якія тэмы пішуць, адбіраў сабе людзей. Выходзіць, чалавек зацікаўлены, калі сам падбірае сабе кадры*".

Крыху раней пра тое, што Генадзь Бураўкін узначаліў дзяржаўны камітэт радыё і тэлебачаньня, мне пісаў Віталь Шхіньян. З прыходам Бураўкіна зьвязваліся вялікія перамены. Зрэшты, і цяпер ягонае кіраўніцтва асацыюецца з пэрыядам беларусізацыі беларускага радыё і тэлебачаньня.

...Праз паўгода пасьля мяне "загрымеў" у войска і Ігар. Трапіў ён у Архангельск, на вайсковым жаргоне "Архару" — своеасаблівую расейскую цьмутаракань, пра што Ігар пісаў у кожным сваім лісьце. Тое, што яго забралі на службу, павялічыла аб'ёмы нашае перапіскі. Вось ягоны першы вайсковы ліст.

"*Дзень добры, браце. Вось ужо з 14 траўня я сапраўды твой калега. Але самае горшае, што лёс закінуў мяне за цэлыных дзьве тысячы кілямэтраў ад родных мясьцін. Як тут кажуць, у "город трески, город тоски". Зараз стаю днявальным. Тры гадзіны ночы. А на вуліцы сапраўдны дзень*".

Нашмат цікавей чытаць пра згадваных у перапісцы людзей, якія ўпершыню зьяўляліся на небасхіле нашага лёсу, асабліва тых, якія на гэтым небасхіле і застануцца на ўсё жыцьцё.

Зь ліста ад 8 сьнежня 1979 г., Архангельск:

"*Спытай у Вінцука, ці ведае ён такога Юры Цыбіна, здаецца, таксама член джаз-клуба. Вольны паэт. Асоба даволі цікавая, патрэбная. Гадоў 22—23-х. Зь ім не знаёмы. Ведаю толькі па гаворках, якія пачуў тут*".

Альбо яшчэ адзін прыклад.

Зь ліста ад 27 верасьня 1980 г., Архангельск:

"*Прывітаньне, братка.*

*Зь месяц таму ў мяне была адна з самых прыемных сустрэч за апошнія паўтара гады. Неяк зайшоў павячэраць у сталовую. Стаю ў чарзе. Уперадзе невялічкая група. З выгляду турысты. І тут пачуў, што барадаты, які стаіць наперадзе мяне, павёў гаворку на мове, з прыемнейшым беларускім вымаўленьнем. Я да яго. Сапраўды, зь Менску. Яго і астатніх зьдзівіла, што на мове размаўляю. У іх было дужа мала часу. Сьпяшаліся ў аэрапорт. Ужо дамоў ляцелі. З хвілін дзесяць-пятнаццаць (пакуль стаялі ў чарзе і елі) гаварыў зь імі. У асноўным з гэтым барадатым. Назваўся Садоўскім, навуковы супрацоўнік з інстытуту мовазнаўства. Да халеры знаёмае прозьвішча, думаю. Толькі адкуль, не магу ўспомніць. А неяк, перачытваючы "ЛіМы", якія ў апошні раз даслаў Вінцук, зноў праглядзеў артыкул аднаго з чэрвеньскіх нумароў, у якім ідзе гаворка аб мове і вымаўленьні дыктараў бел. радыё, TV, артыстаў тэатра і г.д. Аўтар — гэты ж Садоўскі. Яшчэ больш стаў паважаць яго.*

*За гэты час напісаў апавяданьне і даслаў у "Маладосьць". Вось зараз чакаю... пахаронку*".

Яна сапраўды прыйшла. Фармулёўка была для 79-га забаўная: "У апавяданьні не раскрыты канфлікт". І гэта ў часы самага росквіту сацрэалістычнай бесканфліктнасьці!

Калі пісаліся апошнія лісты з Архангельску, у Менску ўжо дзейнічала Майстроўня. Мы абмяркоўвалі "хісткую атмасфэру", што панавала ў ёй, ды ўсе свае ранейшыя клопаты і заняткі.

Выснова пра тое, чым і як займацца, была такая:

Зь ліста ад 1 красавіка 1981 г., Архангельск:

"*...Шмат пытаньняў, вырашэньне якіх спрыяла б руху нашай справы наперад, можна падняць у друку. Дык чаму нам не займацца гэтым?! І менавіта так ты прынясеш больш карысьці справе. Калі мы жадаем дабіцца посьпеху, нам трэба дамагацца канкрэтных рашэньняў адпаведных органаў*".

Далей згадваецца адна з нашых акцыяў — патрабаваць у газэтных шапіках беларускі варыянт "Вячэрняга Мінску":

"*Што датычыць формаў і мэтадаў, то, наколькі я інфармаваны, яны за апошнія паўтара-два гады зьмяніліся ў нас не нашмат. Мы, мо, як і раней, купляем "Вячорку", абражаючы кіяскёраў?*"

А яшчэ праз месяц Гермянчук вярнуўся, і патрэба ў перапісцы адпала. Наперадзе было шмат новых людзей, шмат усяго-ўсяго рознага, словам, цэлае вялікае жыцьцё, скажы нам пра якое тады, мы ні за што б не паверылі.

Ігар вярнуўся і аднавіўся на журфаку, але ў іншай групе, на дзённым аддзяленьні, бо вечаровае за гэты час зьліквідавалі. Мы зноў былі разам. І яшчэ ня ведалі, што новая група, куды патрапілі, стане абсалютна ўнікальнай з усіх груп, усіх факультэтаў і ўсіх ВНУ. Яна дасьць ня толькі цэлую плойму вядомых сёньня журналістаў, але й некалькіх прафэсійных паэтаў. Праўда, двух расейскамоўных, адным зь якіх апекаваўся Рыгор Барадулін і ў якога нядаўна ў Амэрыцы згарэў дом, а другі ўзначаліць пісьменьніцкую арганізацыю Сахаліну. З нашай групы выйдуць такія празаікі, як Астравец і Пятровіч. Два палітыкі ўсебеларускага маштабу — Гермянчук і Навумчык, дэпутаты Вярхоўнага Савету. Людзі з нашага курсу робяць калыханкі на БТ і рэпартажы для РТР...

Цікавасьць да беларушчыны пачне нарастаць у геамэтрычнай прагрэсіі. Масавыя беларускія арганізацыі, шматтысячныя мітынгі пад бела-чырвона-белымі сьцягамі, распад Савецкага Саюзу, нашы газэты, сапраўднае грамадзкае і сваё асабістае шчасьце, і натуральна — цэлае мора расчараваньняў і перашкодаў, якія мы ўпарта штурмавалі да самага апошняга моманту, пакуль на тое хапала ў нас сілаў.

А шчырае юнацкае памкненьне заўсёды гучыць актуальна — што дваццацігадовае даўніны, што стагадовае, што з часоў Антычнасьці. Заўсёды актуальнае першае сур'ёзнае пачуцьцё.

**Сяргей Дубавец**

# Кушлянскае сена

**Лістуючыся з унукам Мацея Бурачка — Зыгмунтам Абрамовічам, я, натуральна, ня мог не пацікавіцца ягонымі стасункамі з Багушэвічамі. І Абрамовіч з ахвотаю распавёў мне пра сустрэчу з Мацеем Бурачком у Кушлянах, куды малы Зыгмусь прыяжджаў з сваім бацькам, вайсковым лекарам, з Масквы.**


Зыгмунт Абрамовіч

От як яму запомніліся Кушляны тае пары і сам пясьняр...

"...Багушэвічавы Кушляны — гэта невялічкі фальварак безь ніякага нахілу да "панскасьці".

"Стары Францішак", як яго называла сьледам за маёй маткай большасьць сваякоў — польская частка сям'і, хадзіў па бальконе і ахвотна гутарыў з кожным, хто ўваходзіў у кушлянскую браму. Першы раз я прайшоў праз гэтую браму, калі мне было чатыры, мо пяць гадоў, — і зразумела, што ўсё гэта цяпер далёкае і заснаванае туманамі даўнасьці — быццам сон.

Трэба сказаць, што песьняра наагул лічылі за чалавека больш маўклівага, маўклівага не "па-адвакацку".

Бацькі мае жылі зіму ў Маскве, а летам заўсёды бывалі ў Беларусі, якую мой бацька лічыў сваёй бацькаўшчынай — і ўсё тое, што я цяпер апісваю, было ў 1898—1899 г. Мой бацька з "прысяжным паверанным" (так называлі адвакатаў) гутарылі "папростаму".

Можна толькі шкадаваць, што я быў пяцігадовым хлопчыкам і яшчэ ня мог шмат чаго ўсьведамляць: беларускі пясьняр чытаў свае творы — я быў толькі бязвольным сьведкам часткі творчага працэсу.


АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

Аднойчы мы ўсе пайшлі ў поле, адкуль вазілі сена, і Багушэвіч пасадзіў мяне на высачэзны воз, кажучы: "Вось на гэтым паедзеш дадому!"

Я надта ўцешыўся, учапіўся за шнур — і мяне павезьлі.

Усё было б у парадку, калі б кушлянскі "грунт" быў гладкі. Праз усё жыцьцё я ня бачыў такога ліку камянёў у адным месцы, як там. І вось у пэўным моманце я лячу з гэтага возу і падаю на велізарны камень.

Трэба было бачыць, як зьлякаўся Багушэвіч, як схапіў мяне на рукі і сам панёс дадому.

У памяці асталіся воблік песьняра, яго глыбокі голас і добрыя вочы...

Некалькі разоў пісаў да маіх бацькоў, пытаўся, ці не было якіх дрэнных рэзультатаў маёй паездкі зь сенам.

Яшчэ раз убачыў Багушэвіча ў маіх дзядоў у Вільні, на жаль, гэта было толькі кароткае спатканьне: калі я варочаўся дадому, пясьняр ужо разьвітаўся...

Аб маім "кушлянскім сене" я шмат пазьней расказаў Цішку Гартнаму, а ён падумаў ды адказаў: "Ведаеце што, гэткія рэчы трэба глыбока хаваць у памяці, бо наагул мы мала што ведаем аб нашых дзеячах. Прыйдзе, прыйдзе час, калі будзем зьбіраць нават самыя няважныя факты".

Я паслухаў Гартнага — і ўспомніў цяпер".

**Уладзімер Содаль**


З АРХІВА "ГС"

# У Слуцак па соль

**У красавіку 1942-га зямлю калгасную, коней і сельгасінвэнтар сяляне нашай вёскі Боркі, як і паўсюль на Случчыне, падзялілі. І ў хлапчукоў-падлеткаў зьявіўся гаспадарчы клопат — пасьвіць коней. Лепшых гнядых немцы забралі яшчэ зімой, пакінулі старых, дабітых калгасам дахадзяг. Іх засталося па адным на два двары. Не мінула і месяца, як тыя коні з вострымі дугамі рэбраў пачалі ўвачавідкі круглець — што значыць займелі гаспадароў!**

У траўні на лугах і ў хмызьняку каля лесу пайшла ў рост трава, і мы, хлапчукі, спутвалі коней на ноч каля тых хмызоў, раскладалі цяпельца, смажылі на ражончыках сала, а апоўначы захіналіся ў сьвіткі й спалі да самага золку. А ледзьве сонца пачынала залаціць вершаліны дрэваў, растрыножвалі коней і вярталіся ў вёску.

Неяк у нядзелю, 17 траўня, маці сказала мне, каб схадзіў у Слуцак і купіў на базары солі, сахарыну, запалак і мыла. Радасьці маёй не было канца, бо з пачатку вайны, калі я праводзіў да ваенкамату бацьку, ніводнага разу ня быў у горадзе.

Зь сябруком Толікам Валатковічам мы ўзялі кірунак на Слуцак, да якога ад нашай вёскі дваццаць кілямэтраў. Мінуўшы тры вялікія вёскі, выйшлі на шашу-"варшаўку". Узбоч яе ў канавах валяюцца абгарэлыя шкілеты нашых машын-паўтарачак, гармат-саракапятак з патрушчанымі шчытамі, кучы артылерыйскіх снарадаў. А насустрач нам па шашы сунецца дажджэная вайсковая калёна немцаў. Яна кіруецца на ўсход — да фронту. Папарадзе ідзе легкавік з адкідным брызэнтавым верхам. На ім тырчаць чатыры рулі дробнакалібэрнай зэнітнай установкі з запраўленымі ў патроньнікі стужкамі. За ёю на крэсьле — салдат у касцы. Сьледам ідзе такі самы легкавік. На ягоным капоце разасланае чырвонае палотнішча зь белым кругам, пасярод якога чарнее свастыка. Ужо пасьля вайны я даведаўся, што немцы такімі разгорнутымі на машыне палотнішчамі давалі знак сваім самалётам, каб тыя паблізу фронту не ўсчалі іх бамбаваць. Мы збочваем на край шашы, бо насустрач, абганяючы грузавікі, поўныя салдатаў, імчаць матацыклы з калясками. На кожным па тры гітлераўцы, за плячыма ў іх — новенькія савецкія вінтоўкі-дзесяцізарадкі. І ня дзіва: у першыя дні вайны савецкія салдаты, адступаючы, пакінулі ў лясох, балотах, жыце столькі стралковай зброі, што яе хапіла б не на адну дывізію — сваімі вачыма бачыў гэткі арсэнал вакол вёскі.

Вось і Слуцак. Галоўная вуліца (да вайны яна звалася Пралетарскай) ад усходняй ускраіны і да цэнтру — суцэльнае поле абгарэлых комінаў, галавешак. Мы спыталі ў цёткі, што ішла насустрач, хто спаліў гэтыя дамы. "Нашы, як адступалі, ішлі ад дому да дому і кідалі бутэлькі з бэнзынам". Тады мы, выхаваныя савецкай школай, не далі ёй веры. Але пасьля, ужо за Хрушчовым, я чуў пра гэта ад многіх пагарэльцаў.

Двухпавярховы Дом Саветаў у цэнтры гораду ацалеў. Там атабарылася гарадзкая ўправа. Над уваходам — вялізны каляровы партрэт фюрэра з подпісам па-расейску: *"Гитлер-освободитель"*. А над ім — чырвоны сьцяг зь белым кругам і чорнай свастыкай у цэнтры яго. Вартавы ў чорнай форме з расейскай вінтоўкай праходжваецца паблізу. На рагу вуліцы жанчына прадае газэты. Іх я не трымаў у руках амаль год. Купляю за савецкі рубель сьвежы нумар "Беларускай газэты". На першай старонцы — зводка з усходняга фронту пад рубрыкай "З галоўнай кватэры фюрэра". Зацікавіла паведамленьне аб баях на поўдні: "Наступ саветаў пад Харкавам. Бальшавікі буйнымі сіламі пяхоты і танкаў перайшлі 13 траўня ў наступ у раёне Лазавая і Барвенкава, але ўсе атакі іх адбітыя зь вялікімі для ворага стратамі. У паветраных баях састрэлена 55 савецкіх летакоў, люфтвафэ недалічылася шасьці машынаў". Праз два тыдні пасьля майго наведваньня Слуцку тая ж "Беларуская газэта", якую прывёз наш сусед, паведаміла, што тры арміі саветаў акружаныя пад Харкавам і разгромленыя. Толькі ў палон немцы ўзялі 157 тысячаў чалавек, у якасьці трафэяў — звыш 600 танкаў і 1800 гарматаў. На жаль, тут нямецкая прапаганда зусім не перабольшыла страты Чырвонай Арміі ў той бітве, якую ў вышэйшых вайсковых вучэльнях потым назавуць "Харкаўскай катастрофай".

...Мы зь сябруком ідзём да базару. Туды ад цэнтру гораду каля кілямэтра. Па брукаванай вуліцы два нашыя ваеннапалонныя — бледнатварыя, у брудных шэрых шынялях — коцяць вазок-двухколку зь бітай цэглай. Без канваіра. Яны зь лягеру для ваеннапалонных, што знаходзіцца ў першым вайсковым гарадку. Там за зіму 42-га памерла ад голаду й тыфу звыш 10 тыс. савецкіх салдатаў і афіцэраў. Ацалела чалавек чатырыста, ня болей. Насустрач нам проста па дарозе ідзе худая ў лахманах жанчына з жоўтай шасьціканцовай зоркай на грудзях і на плячах. Калі яна збочыла на ходнік, каб ня трапіць пад колы грузавіка, паліцыянт груба загадаў ёй сысьці зь яго: габрэям не дазволена хадзіць па тратуарах.

На базары шмат людзей, вазоў. За савецкія рублі купляю ў аднаго дзядзькі шклянку солі й дзьве пушкі запалак, а ў нямецкага салдата, што стаіць паблізу з адкінутай на раменьчыках палічкай для тавару, купляю сахарыну, кавалачак пясочнага мыла і некалькі цыгарэтаў — за нямецкія акупацыйныя маркі, якія ідуць нароўні з рублямі. Побач вясковы дзядзька разаслаў проста на бруку посьцілку ды выставіў бутэльку з самагонам, нарэзаныя лустамі хлеб і сала, цыбулю. Падыходзяць два нямецкія салдаты бяз зброі, толькі са штых-нажамі ў скураных чахольчыках на дзязе. Паказваюць дзядзьку, што жадаюць выпіць ягонага "шнапсу", але, маўляў, сьпярша сам пакаштуй. Той глытае паўшклянкі і выцірае рукавом куфайкі вусны. Тады і немцы выпіваюць па шклянцы, закусваюць "шпэкам", разьлічваюцца маркамі. Тым часам на сярэдзіну базарнай плошчы выяжджае машына-паўтарачка з адкінутым бортам. Мужчына сярэдніх гадоў праз рупар аб'яўляе, што зараз выступіць слуцкі паэт Васіль Клішэвіч. Малады хлопец у вышыванай кашулі пачынае чытаць вершы, людзі моўчкі слухаюць яго. Мяне болей за ўсё крануў упершыню тады пачуты з вуснаў Клішэвіча верш Максіма Багдановіча "Пагоня". Асабліва словы "Біце ў сэрца іх, біце мячамі, не давайце чужынцамі быць. Хай пачуюць, як сэрца начамі аб радзімай старонцы баліць"...

А Толік цягне ўжо мяне ў кіно. Кінатэатар, што да вайны зваўся "Чырвоная зорка", месьціцца ў колішнім будынку габрэйскай харальнай сынагогі, якую бальшавікі закрылі ў канцы 20-х, як і іншыя храмы. Дарослых у кіно мала, болей падлеткаў і чалавек дзесяць нямецкіх салдатаў. Гасьне сьвятло, і на экране дэманструецца "Вафэншоў" — нямецкая дакумэнтальная франтавая кінахроніка. У тыя дні на Керчанскім паўвостраве ў Крыме немцы дабівалі дзьве арміі саветаў. А іхныя хранікёры пасьпелі зьняць кадры баёў і даслаць адну з копіяў той стужкі ў маленькі беларускі гарадок. Вось дык нямецкая апэратыўнасьць! На экране бясконцыя завалы спаленых савецкіх танкаў, машынаў, разьбітых фурманак, забітых коней. І трупы, трупы салдатаў, матросаў, бесказыркі, што плаваюць ля берага... Голас дыктара поўны захапленьня і радасьці. Яшчэ б! Толькі палонных немцы ўзялі звыш 130 тысячаў, захапілі й амаль усю баявую тэхніку. Пасьля экран паказвае Паўночную Афрыку. Аэрадром у пустэльні. У небе — пяцёрка беленькіх двухматорных самалётаў, напэўна, ангельскіх. Да зьнішчальніка "Ме-109" кіруецца лётчык — у адных шортах, толькі з парашутам за плячыма... І вось ужо бясхмарнае неба перакрэсьліваюць сылюэты двух ахопленых полымем самалётаў. А нямецкі ас у шортах ужо вылазіць з кабіны свайго "мэсэра", сябры паціскаюць яму рукі, а тэхнік малюе на фюзэляжы машыны яшчэ два крыжыкі. І апошнія кадры хронікі — з Атлянтыкі. Апэратар зьняў іх з борту нямецкай падводнай лодкі, якая ўсплыла, каб зьнішчыць амэрыканскі параход. Матросы таропка разварочваюць у ягоны бок гармату і пачынаюць страляць. На борце параходу ўспыхваюць выбухі, потым ён пачынае хіліцца на адзін борт, пераварочваецца і тоне.

Пасьля ўсяго ўбачанага нямецкая камэдыя "Сэрца радаснае, сэрца сумнае" зь беларускімі тытрамі па нізе экрану здалася пуставатай, і мы зь сябрам пайшлі з залі. Пад вечар былі ўжо дома і распавядалі пра ўбачанае ў кіно сябрукам. А купленую ў горадзе газэту я аддаў свайму дзядулю Якубу — на цыгаркі.

**Міхась Тычына, Слуцак**

Гальдоні ў Купалаўскім

# Рыба нас таксама любіць

**У Купалаўскім адбылася прэм'ера камэдыі "К'еджаўскія перабрэхі" паводле п'есы Карла Гальдоні. Паставіў яе рэжысэр Уладзімер Шчэрбань, ужо вядомы гледачу па спэктаклі "Тут жывуць людзі" паводле п'есы Атола Фугарта. "К'еджаўскія перабрэхі" прывабліваюць выдатнай сцэнаграфіяй, якая цудоўна перадае казачны калярыт Адрыятыкі, настраёвай музыкай ды бліскучым падборам актораў, якія на ўвесь спэктакль прыкоўваюць да сябе ўвагу гледачоў — а каб разабрацца ва ўсіх хітраспляценьнях п'есы, трэба быць вельмі ўважлівым.**


ВІКТАР СТРАЛКОЎСКІ

Дзея адбываецца ў маленькім рыбацкім гарадку К'еджа, дзе ўсе між сабою суседзі, браты і сваты. Таму й жывуць у атмасфэры суцэльнай закаханасьці, суперніцтва, рэўнасьці, зайздрасьці, плётак, сварак і звадак ды стыхійна-змушаных замірэньняў. Гэта калаўрот будзённага жыцьця жанок і нявестаў, чые мужы і жаніхі "з дванаццаці дзесяць месяцаў" праводзяць у моры. Галоўнае — не разгубіцца й старанна адсочваць усе раманы паміж героямі, а таксама ступені іхнага сваяцтва.

У першай дзеі шмат грукату, жарсьцяў, нагавораў і непаразуменьняў. Спэктакль, названы на афішы камэдыяй, больш нагадвае сур'ёзную жыцьцёвую драму, паўсталую з-за выпадковых недарэчнасьцяў і заганнасьці чалавечае натуры. Зрэшты, гумару таксама хапае: Рыгор Барадулін, які пераклаў п'есу, шчодра насыпаў у яе сакавітых народных выразаў. Але публіка больш жвава рэагуе на прыёмы "камэдыі станаў". Супрацiўляцца міралюбнаму камізму падрона Фартунатэ (Вячаслаў Паўлюць) і памочніка судзьдзі (Віктар Манаеў) ня можа ніхто. Гэтыя пэрсанажы разраджаюць нежартоўную вэндэту адрынутых і абражаных жанчынаў і пакрыўджаных у сваім гонары мужчынаў з гарачай крывёю і багатым уяўленьнем.

Вайна паміж жанчынамі паўстае ў спэктаклі справай значна больш змрочнай й небясьпечнай за мужчынскія "разборкі", хоць яна й вядзецца на ўзроўні перабрэхаў і бойкі вёсламі, а ня кіданьня камянёў і размахваньня нажамі.

У другой дзеі камэдыя набывае дынамізм і разьняволенасьць. Там больш непасрэднага гумару, сьпеваў і танцаў. Глядач можа ўздыхнуць з палёгкай і расслабіцца, спадзеючыся на хэпі-энд. Хоць шмат якія моманты дражняць магчымасьцю іншага разьвіцьця падзеяў. І калі ў канцы спэктаклю каханьне (а хоць дзе й здаровы рыбацкі разьлік) усё ж перамагае і ўрэшце ўсе між сабою жэняцца, гледача чакае сюрпрыз. Маўляў, гэта вам ня "Пінская шляхта", не сэнтымэнтальная сялянская ідылія.

"К'еджаўскія перабрэхі" — эўрапейская казка, якую асабліва ўпадабаюць дзеці, раўнівыя жаніхі, дзяўчаты на выданьні й тыя, хто проста любіць рыбу. Пры канцы спэктаклю яны ўпэўняцца, што рыба іх таксама любіць.

**Марыя Салаўёва**

зь Нью-Ёрку

# Што чытае Вінцук?

Недзе, ці то ў Сеціве, ці то ў радыйнай перадачы, а мо нават і ў друку, нехта назваў беларусаў "кніжнай нацыяй". Маўляў, калі ў нас і ёсьць што, дык толькі на бачынах кнігаў. Там наш залаты час, там сталіца Наваградак, там — БНР, там — шляхецтва, ліцьвінства. Толькі там.

Аспрэчваць цяжка. Можна хіба пашкадаваць, што з усіх мастацтваў для самавыяўленьня мы абралі найбольш таннае, тое, у якім непрафэсіяналу або бесталеннаму чалавеку найлягчэй. Дзе сёньня найбольш жыве беларушчына? У друку: газэтах, часопісах, кнігах, на інтэрнэтаўскіх форумах-"мянташках"*. У словах — ва ўсіх значэньнях гэтага выразу. Здавалася б, такой ролі кнігі ў нашым грамадзтве ("кніга — зброя беларуса!") мусіць адпавядаць належнае стаўленьне да яе. Бо — адзінае ж, насамрэч! І яе, кнігу тую, варта чытаць, набываць, спрыяючы захаваньню мовы, падтрымліваючы беларускіх пісьменьнікаў, навукоўцаў, выдаўцоў.

Ну, а цяперака ад таго, што мусіць быць, да таго, што маем. Цікаўлюся, як у Менску разыходзяцца кнігі, што набываюць, што чытаюць нашыя людзі. І дзівяць мяне бязьмежна справаздачы кнігаНошаў: на Соймах БНФ любога крыла-фракцыі да сьвежанькіх, толькі з друкарні кнігаў падышоў толькі дзясятак-другі зь некалькіх соцень дэпутатаў. А набылі штось яшчэ меней.

А са зьдзіўленьня нараджаецца пытаньне. Не да тых палітыкаў, якіх дзецьмі капітана Гранта клічуць, не да тых, хто пад справу беларускую грошы атрымлівае, не да тых, хто за іх кватэры купляе або гувэрнантку сваім дзецям трымае, а да тых, у чыёй беларускасьці сумневу няма, — скажыце, спадар Алесь, якую апошнюю кнігу набылі? Падзяліцеся, спадар Вінцук, што добрага з апошняга прачыталі? На якога аўтара зьвярнулі ўвагу, спадар Юры? Зь беларускага?

А мо пішацца, выдаецца ня тое, непатрэбнае? Тады адкажыце, пытаюся я ў чытачоў газэты, у сяброў "Маладога фронту", "Белага легіёну", "Краю", ТБМ, што трэба? Якіх кніжак вы чакаеце — па гісторыі, па літаратуры? Пра каго зь пісьменьнікаў, зь дзеячоў гісторыі набудзеце кнігу, няхай без трымценьня ў руках? Які пэрыяд вас прывабіць, які час? Які аспэкт жыцьця, дзейнасьці? Бо гэта таленавіты раман на замову напісаць нельга, а прыстойнае дасьледаваньне — нават вельмі.

Аднак нашая кніга — напісаная, выдрукаваная, пераадолеўшы фінансавыя, тэхнічныя ды маркетынгавыя перашкоды, трапіўшы нарэшце да чытача, замест яднаўчай радасьці, пачуцьця зьдзейсьненасьці, далучанасьці да яшчэ адной маленькай цаглінкі ў тваім беларускім доме пераважна выклікае на сябе зьнішчальны агонь крытыкі — сваіх жа. Ажно аўтар вершаў або прозы, крытычнага артыкулу ці манаграфіі пракляне тую хвіліну, што мянуецца творчым стваральным поцягам. І няхай бы крытыка была таксама на што стваральнае скіравана! Дык не! Складаецца ўражаньне, што спрацоўвае прынцып — як вакол нядобра, няхай будзе яшчэ горш; як мала маем — дык і гэта спляжым. Нібыта кожны крытык хоча застацца Апошнім беларусам, каб на ім скончылася ўсё.

Мо яно так і станецца, калі замест некалі сфармуляванага Юркам Віцьбічам прынцыпу "беларус беларусу воўк" для нашых людзей ад слова не пачне спрацоўваць перафразаванае Гіпакратава — не адбі ахвоту.

**Лявон Юрэвіч**

* Мая прапанова беларускага адпаведніка для слова "чат".




*Беларуская палічка ў Інтэрнэце:*
Абнаўленьні за апошнія тыдні

Новыя тэксты:
**Сакрат Яновіч**. Сьцяна. **Масей Сяднёў**. Раман Карзюк; І той дзень надышоў. **Уладзімер Арлоў**. "Не гуляйце каля статуі Свабоды" і інш. апавяданьні. **Вітаўт Чаропка**. "Перамога ценю"; "На крузі свая" і інш. апавяданьні. **Алесь Аркуш**. "Прысуд валадара" і інш. апавяданьні. **Вінцэсь Мудроў**. "Гісторыя аднаго злачынства"; "Зімовыя сны" і інш. апавяданьні. **Ян Баршчэўскі**. Душа не ў сваім целе. **Генрык Равускі**. Успаміны Пана Севярына Сапліцы. **Алесь Белы**. In Laudem Cerevisiae (На хвалу піва). **Станіслаў Акінчыц**. Залаты век Беларусі. **Генадзь Прыбытка**. Беларускія слабоды ў Маскве. **Вячаслаў Лыпынскі**. Нацыяналізм, патрыятызм і шавінізм. **Валянцін Сядоў**. Беларусы — славяна-балты? **Барыс Сачанка**. Карчоўнік; Тыя. **Алесь Кажадуб**. Ваўкалакі. **Уладзімер Шыцік**. Агеньчык у цемры. **Лідзія Адамовіч**. Кветкі самотнай князёўны. **Сяргей Давідовіч**. Аповесьці і апавяданьні. **Альда Барэйс**. Пакаштаваць Сусьветнага Вепрука. **Зьміцер Сьвірскі**. Зямля пад чорнымі вусамі, альбо Што здарылася зь Зямлёй пад белымі крыламі. **Агата Крысьці**. Выкраданьне прэм'ер-міністра. **Станіслаў Лем**. Альбатрос. **Гі дэ Мапасан**. "Цётка Саваж"; "Тамтэй"; "Вэндэта" і інш. навэлы. **Гвін, Трэнка, Ларын, Дзьмітрук, Галавачоў, Панасенка, Угараў, Абдулаева, Шулцэ, Балашавічус, Беражны, Чакану.** Замежнае фантастычнае апавяданьне. **Уладзімер Караткевіч**. "Дзікае паляваньне караля Стаха" (па-ангельску). **Васіль Быкаў**. Пераклады на польскую і нямецкую.

# *Кнігі поштай*



| Назва | Цана |
| --- | --- |
| **ARCHE-Пачатак** 2000, №7 "Слоўнік свабоды" | **1500 р.** |
| **ARCHE-Пачатак** 2000, №9 "Мэдыцына" | **1500 р.** |
| **ARCHE-Скарына** 2000, №6 | **1000 р.** |
| **ARCHE-Скарына** 2000, №8 | **1000 р.** |
| **ARCHE-Скарына** 2001, №1 | **1000 р.** |
| **ARCHE-Пачатак** 2001, №5 "Украінскі нумар" | **3500 р.** |
| **ARCHE-Скарына** 2001, №4 | **1000 р.** |
| **ARCHE-Скарына** 2001, №6 | **1000 р.** |
| **Vostraja Brama 0: Глёбус Адам.** "Post Scriptum". 176 с. | **2600 р.** |
| **Vostraja Brama 1: Быкаў Васіль.** "Пахаджане". 192 с. Кніга прыпавесьцяў, напісаных за час побыту пісьменьніка ў Фінляндыі і Нямеччыне | **2600 р.** |
| **Vostraja Brama 3: Лукашук Аляксандар.** "У фіялетавай ночы вугал крыла". 160 с. Кніга пра БССР 80-х. Працуючы ў галоўнай партыйнай газэце "Звязда", аўтар шмат назіраў за паводзінамі вялікага і малога начальства, а таксама звычайнага "гома саветыкуса" | **2600 р.** |
| **Vostraja Brama 5: Глёбус Адам.** "Браслаўская стыгмата". 192 с. Новая кніга Адама Глёбуса, якую склалі апавяданьні апошніх гадоў | **2600 р.** |
| **Бахарэвіч Альгерд. Практычны дапаможнік па руйнаваньні гарадоў.** 152 с. | **1800 р.** |
| **Беларуская палітычная сыстэма і прэзыдэнцкія выбары 2001 г.** 480 стар. Зборнік артыкулаў, падрыхтаваных аналітычнай групай (Менск) і Цэнтрам дэмакратыі ва Усходняй Эўропе (Варшава), пад рэд. Валера Булгакава | **3000 р.** |
| **Беларускі гістарычны агляд. Том 4. Сшытак 1-2(6-7).** 318 с. Часопіс | **1800 р.** |
| **Беларускі гістарычны агляд. Том 5. Сшытак 1 (8).** 288 с. Часопіс | **1800 р.** |
| **Беларускі гістарычны агляд. Том 5. Сшытак 2 (9).** 692 с. Часопіс | **1800 р.** |
| **Беларускі гістарычны агляд. Том 6. Сшытак 1-2 (10-11).** 400 с. Часопіс | **2400 р.** |
| **Беларускі гістарычны агляд. Том 7. Сшытак 1 (12).** 302 с. Часопіс | **1800 р.** |
| **Беларускі гістарычны агляд. Том 7. Сшытак 2 (13).** 622 с. Часопіс | **1800 р.** |
| Біб-ка "БГА" 2: **Кандыбовіч Сымон. Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі.** 160 с. Праца Сымона Кандыбовіча (1891–1972) — адна зь першых спробаў дасьледаваньня гісторыі бальшавіцкіх рэпрэсіяў супраць інтэлігенцыі. Тэкст напісаны ў эміграцыі ў 1950-я. Асаблівую цікавасьць маюць аўтарскія характарыстыкі і замалёўкі, створаныя відавочцам падзеяў — кіраўніком справаў ураду БССР у 30-я гады. | **3000 р.** |
| Біб-ка "БГА" 6: **Слуцкі збройны чын 1920 г. у дакумэнтах і ўспамінах.** 274 с. Укладаньне: У.Ляхоўскі, У.Міхнюк, А.Гесь. Выданьне, прысьвечанае гісторыі антыбальшавіцкага паўстаньня 1920 г. на Случчыне, уключае дакумэнтальныя матэрыялы з архіваў Беларусі, Літвы, Польшчы, Расеі, прэсавыя паведамленьні, успаміны ўдзельнікаў, а таксама дакумэнты з архіваў КДБ. | **4500 р.** |
| Біб-ка БГА 8: **Туронак Юры. Беларуская кніга пад нямецкім кантролем (1939–1944).** 144 с. Манаграфія Юр'я Туронка прысьвечаная праблеме беларускай кнігавыдавецкай дзейнасьці ў гады другой сусьветнай вайны. Аўтарам складзены каталёг усіх беларускіх кніг зь іх падрабязным бібліяграфічным апісаньнем. Выданьне дапоўненае біяграмамі ўдзельнікаў выдавецкага руху. | **4200 р.** |
| Біб-ка БГА 9: **Тумаш Вітаўт. Выбраныя працы.** 246 с. Вядомы эміграцыйны гісторык, грамадзкі дзеяч і публіцыст Вітаўт Тумаш (1910–1998) вяртаецца ў Беларусь. У першую айчынную кнігу яго працаў увайшлі канцэптуальныя артыкулы, друкаваныя ў эміграцыйных часопісах, а таксама няскончанае дасьледаваньне жыцьця і навуковай спадчыны Яўхіма Карскага. | **3000 р.** |
| **Беларускі кнігазбор т.15: Мікалай Улашчык. Выбранае.** 608 с., цьвёрдая вокладка. У кнігу ўвайшло самае істотнае з навуковай спадчыны Мікалая Улашчыка, а таксама краязнаўчыя нарысы, мэмуары, лісты. | **3300 р.** |
| **Беларускі кнігазбор т.16: Яўхім Карскі. Беларусы.** 640 с., цьвёрдая вокладка. Ураджэнец Наваградчыны, акадэмік Расейскай імпэратарскай акадэміі навук Яўхім Карскі (1861–1931) усё жыцьцё вывучаў этнічную гісторыю беларусаў. Вынікам сталася шматтомнае дасьледаваньне "Беларусы". У кнізе — першы і трэці тамы "Беларусаў", якія не перавыдаваліся з 1916 г. | **4200 р.** |
| **Беларускі кнігазбор т.18: Цётка. Выбраныя творы.** 336 с., цьвёрдая вокладка. Самае поўнае выданьне твораў Цёткі (Алаізы Пашкевіч). | **3000 р.** |
| **Беларускі кнігазбор т.19: Натальля Арсеньнева. Выбраныя творы.** 592 с., цьвёрдая вокладка. У кнігу ўвайшлі ўсе самыя значныя творы Натальлі Арсеньневай: лірычныя вершы, лібрэта, пераклад "Песьні пра зубра" Гусоўскага, успаміны, лісты. | **4000 р.** |
| **Беларускія маршы і песьні.** 62 с. Зборнік патрыятычных песень з нотамі | **1000 р.** |
| **Бурсаў Андрэй. Дзівін. (Граняслоўі 1995-2002)** 152 с. | **2600 р.** |
| **Быць альбо ня быць сярэднеэўрапейцам.** Сучаснае польскае мысьленьне. 472 с. | **1800 р.** |
| **Вішнёў Зьміцер. Тамбурны маскіт.** 256 с., цьвёр. вокладка. | **3300 р.** |
| **Дубавец Сяргей. Дзёньнік прыватнага чалавека.** 80 с. | **1000 р.** |
| **Ёрш Сяргей. "Усевалад Родзька. Правадыр беларускіх нацыяналістаў".** 36 с. | **1200 р.** |
| **Нацыяналізм у сьвеце (частка другая).** 54 с. | **840 р.** |
| **Нацыянальнае пакліканьне.** 24 с. Брашура асноўных тэзаў пра дзяржаватворчыя чыньнікі. | **840 р.** |
| **Нісбэт Робэрт. Кансэрватызм: мара і рэальнасьць.** 136 с. Клясычная праца, прысьвечаная ідэям вартасьцям, прынцыпам і догмам палітычнага кансэрватызму. Кніга была напісаная ў 1985–1986 гадах, у пару кульмінацыі нэакансэрватызму, зьвязанага з постацямі Рональда Рэйгана і Маргарэт Тэтчар. Аўтар аналізуе гісторыю і традыцыю кансэрватызму, ягонае стаўленьне да ідэяў розуму, прагрэсу і свабоды, да ўлады, рэлігіі, маралі, уласнасьці. Кніга выйшла ў Вільні ў 2000 г. і да беларускага чытача амаль не дайшла. | **2000 р.** |
| **Паліталёгія. Асноўны курс.** 680 с. Перакладзены зь нямецкае мовы фундамэнтальны падручнік паліталёгіі, напісаны прафэсарамі паліталёгіі ўнівэрсытэтаў Франкфурту-на-Майне, Бэрліну, Мюнстэру і г.д. | **3600 р.** |
| **Раманюк Міхась. Беларускія народныя крыжы.** Манаграфія. Цьвёрдая вокладка. За 25 гадоў дасьледаваньняў і вандровак па Беларусі прафэсар Міхась Раманюк (1944–1997) сабраў мноства зьвестак пра беларускія крыжы, надмагільлі і пахавальна-памінальны абрад. На падставе гэтых матэрыялаў ён і напісаў сваю кнігу, у якой апісаныя ўсе формы і функцыі крыжоў, месцы іх устаноўкі. Манаграфія добра ілюстраваная — у ёй 303 фатаздымкі і 83 малюнкі. | **45000 р.** |
| **Сагановіч Генадзь. Нарыс гісторыі Беларусі ад старажытнасьці да канца XVIII стагодзьдзя.** 412 с. Цьвёрдая вокладка. Сьціслы выклад гісторыі Беларусі ад найдаўнейшых часоў да яе ўключэньня ў склад Расейскай імпэрыі. | **4800 р.** |
| **Сагановіч Генадзь. Невядомая вайна: 1654-1667.** 144 с., цьвёрдая вокладка. У кнізе асьвятляюцца драматычныя падзеі самай страшнай для Беларусі вайны. | **2400 р.** |
| **Сін Ільля. Нуль.** 108 с. | **1800 р.** |
| **Станкевіч Ян. Збор твораў у 2-х тамах.** 1-ы 552 с., 2-гі 586 с. У 1-ы том Збору твораў мовазнаўцы Яна Станкевіча (1891–1976) увайшлі працы, напісаныя паміж 1918 і 1951 г., у 2-і — паміж 1951 і 1973 г. Пераважная бальшыня апублікаваных твораў раней была недаступная беларускаму чытачу. | **7200 р.** |
| **Харэўскі Сяргей. Зьвяры-суайчыньнікі.** 92 с. Кніжка прапануе чытачу незвычайны погляд на жывёльны сьвет Беларусі. Прадмову напісаў У.Арлоў | **500 р.** |
| **Хрысьціянскі філязофскі зборнік.** 168 с. Укладзены з артыкулаў сучасных філёзафаў (Ж.Кацье, Д.Басьці, А.Малінара, Б. дэ Анджэліс і інш.), якія разглядаюць праблематыку магчымых кірункаў актуальнай хрысьціянскай філязофскай думкі ў яе тэарэтычным і гістарычным аспэкце. | **1200 р.** |

Цэны ў каталёгу — для Менску. Для рэгіёнаў прадугледжаныя зьніжкі (30% — для распаўсюднікаў і аптовых пакупнікоў, 10% — для прыватных асобаў). Да супрацоўніцтва запрашаюцца таксама выдаўцы, зацікаўленыя ў распаўсюдзе сваёй прадукцыі праз сыстэму "Кнігі — поштай".

Каталёг з вокладкамі і анатацыямі можна пабачыць у Інтэрнэце: http://knihi4u.cjb.net.

Кантакт: п/с 537, 220050, Менск; пэйдж.: 289-12-12 аб.116133; e-mail: exlibris@tut.by

Шаноўнае спадарства! Калі дасылаеце замовы, падавайце падрабязныя і дакладныя зьвесткі пра сябе і як мага больш кантактаў (тэлефон, пэйджэр, e-mail) для найхутчэйшага выкананьня вашых замоваў.

# Старонка беларускага хайку



АЛЕНА АДАМЧЫХА

Калі б мне пару гадоў таму паказалі дзівака, які на поўным сур'ёзе апавядае дзецям пра японскую паэзію XVII ст., з вартым самурая энтузіязмам вярзе пра першую й другую творчыя манеры Басё, пра філязофскую базу й мастацкую структуру клясычных трохрадковых і пяцірадковых вершаў, а таксама пра шляхі дасягненьня стану саторы, я выклікаў бы "хуткую дапамогу", бо ён свайго саторы ўжо дасягнуў. Але апісаныя падзеі напраўду мелі месца ў Беларускім гуманітарным ліцэі. Мы зь Лявонам Баршчэўскім тлумачылі ліцэістам тонкія адрозьненьні між тэрмінамі "хоку" й "хайку", распавядалі пра прынцыпы складаньня тагачасных зборнікаў паэзіі й ролю абавязковых "сэзонных словаў" — "кіго", апавядалі пра беларускія хайку Максіма Танка й Адама Глёбуса і правакавалі зваротную рэакцыю. Кожны навучэнец мог уявіць сябе калі не японскім паэтам і каліграфам, дык прынамсі Адамам Глёбусам; мог паспрабаваць зьліцца з прыродаю ды ў парыве натхненьня стварыць нешта неардынарнае. Напісанае імі, далібог, вартае ўвагі. А калі мне прыйшоў ліст зь неабыякімі хайку й танкамі ад навучэнкі трэцяй зэльвенскай школы Юлі Качук, я зразумеў, што японскіх паэтаў у нас чытаюць ня толькі ў прэстыжных сталічных ліцэях. Ня ведаю, ці складала хайку Ларыса Геніюш, але паэтычныя традыцыі ў Зэльве жывуць. І сымпатычная старонка беларускага хайку ёсьць ужо сёньня.

**Андрэй Хадановіч**

## Адам ГЛЁБУС

### Чэрвеньскія хайку

***

Гудзеньне чмяля
аціхае-зьнікае
ў мядовай траве.

***

То ён тутака,
то ён тамака — голас
лёгкай ластаўкі.

### Сьнежаньскія хайку

***

Сонечны мароз,
а завіруха ў полі
надрыўна гудзе.

***

Самотны хлопчык
будуе са сьнегу і
лёду цытадэль.

2001 г.

## Арцём АРАШОНАК

***

Вечарам за сталом
П'юць віно...
У кожнай чарцы
па поўні.

***

Дым цыгарэт
Вечарамі нараджае
Абрыс незнаёмкі.

## Юля КАЧУК

### Хайку

* * *

Чаканьне славы
Ня можа жыць у сэрцы.
Душа мая — Бог.

* * *

Краскі квітнеюць,
Дарога ў полі стужкай...
Куды прывядзеш?

* * *

Час сонны стаіць,
Стрэлкі застылі моўчкі.
Іржа балюе...

* * *

Пустэльнік блукае
У адзіноце й цемры...
Патух агеньчык.

* * *

Мілагучны сьпеў
Вецер зрэдку прыносіць.
Надзея ў сэрцы!

* * *

Бяжыць сьцяжынка,
Губіцца недзе ў лесе.
Сонца за хмаркай...

* * *

Ноччу цёмнаю
Успыхнула зорачка...
Новае жыцьцё.

* * *

З атрутай у вачах
Паўзун ля ног прыгрэўся.
Няма даверу...

* * *

Язык драньцьвее
Ад дзікага яблыка.
Маўчыць Беларусь...

### Танкі

* * *

Прамень шкло міне,
Вада заўжды шлях знойдзе,
Ня сьпіць паветра.
Шчырасьць разьбіваецца
Аб бяздушнасьць у сьлёзы.

* * *

Глядзяць аблокі
У люстэрка блакітных азёр;
Айсбэргі мроі.
Птушкі ляцяць у вырай —
Сумныя эмігранты!

* * *

Белы гарлачык
Заглядзеўся на зорку —
Ноч надыходзіць.
Жаданьне прыгажосьці
Імгненьне робіць вечным.

## Глеб ЛАБАДЗЕНКА

* * *

Раніца часу
Ўсе каменьчыкі долу
Новы гадзіньнік

* * *

Твае аблокі
Цягнік далей не ідзе
Пехам дадому

* * *

Сажалка ноччу
Мае мары здурнелі
Сёньня Купальле

* * *

Сьвята навокал
П'юць за цемру мужчыны
Бабы на полі

* * *

Трэцяя восень
Рушым гуртам на выган
Коні сьмяюцца

* * *

Цёплая хата
Дзед спусьціў ногі зь печы
Крок да нябёсаў

## Лешак ЭНГЕЛЬКІНГ

**Пераклаў з польскай Андрэй Хадановіч**

* * *

зімні аўтобус
хто напісаў на шыбе
паэму Басё

* * *

ня бачыў яе
але ўпарта гаворыць
пра квецень вішняў

* * *

чаму гэта ён
вабіць птушку словамі
кыці-кыці-кыт

* * *

у полі пустым
чэша косы дзяўчына
на цень свой глядзіць

* * *

на белым муры
ў белы дзень чорны контур
белае птушкі

* * *

хмарны сёньня дзень
нат на станцыі мэтро
змрочна ды шэра

* * *

поўня месяца
ў слухаўцы тэлефона
маўчаньне ночы

* * *

летняя зьліва
пэўна ставок на лузе
прамок да ніткі

* * *

на скрыжаваньні:
гэтай дарогай ехаць
ці млечным шляхам?

* * *

ўгары млечны шлях
далавах у будцы ты
тэлефануеш

* * *

азяблы вечар
і раптам пад ліхтаром
ружы на сьнезе

## Яна САНЬКО

* * *

Ляжу на лісьці
Падаюць зь неба кроплі
Мо захварэю

* * *

Досьвітак горад
Намёты на ўскрайку
Усе яшчэ сьпяць

* * *

Вада сьцюдзёная
А мы звыклі купацца
Шчасьце кароткае

* * *

Дом у залеве
А мы кахаем лёгка
Нібы на волі

## Андрэй ХАДАНОВІЧ

***

Табе, краіна
Танкаў і хакеістаў, —
Танкі і хоку.

***

Пісаньне хайку:
Хоць навучуся
лічыць
Да сямнаццаці!

***

"Зорка Вэнэра
Узышла над зямлёю".
М.Багдановіч.

***

Хайку засвоіў.
Да абсалюту адзін
Крок — харакіры.

---

**пакаленьне "Next"**

# Аўтобус №14

Мы стаім на прыпынку і чакаем. Мы чакаем аўтобус №10. Сьвецяцца фары, габарытныя ліхтары. Гэта ён, аўтобус, якога мы чакаем. Мацней стукае сэрца. Усё бліжэй бурчаньне матору і шоргат шынаў. І на самым бачным месцы — белачорная шыльда. Нібыта белы лебедзь, яна плыве сярод гэтага бруду і дажджу. Сьвежасьць. Адчуваньне рамантычнай узрушанасьці, якую падкрэсьлівае дождж. Зараз паедзем, зараз паедзем. Прыплюшчыўшы вочы, ловіш сьвятло фараў і з надзеяй скіроўваеш позірк на шыльду. А там! А та-та-таммммм... Нумар 14. Ізноў ты сярод бруду, і дождж б'е цябе па шчоках за легкавернасьць. Адчыняюцца створкі дзьвярэй аўтобуса. Там, у салёне, сьветла і цёпла, сядзяць людзі, і іхныя позіркі кажуць: " Мы таксама некалі езьдзілі ў аўтобусе №10. Але цяпер мы іншыя". Аўтобус №14 працягвае: "Я таксама некалі быў аўтобусам №10, але вось які лёс..." Пцысс! Зачыніліся створкі. "Бру, бру, бруўд вакол. Паехалі адсюль, паехалі".

Мы стаім і чакаем. Ня вытрымала дама ў акулярах. Запаліла цыгарэту. Маленькі агеньчык SOS. Ён гарыць пяць хвілінаў, калі моцна не нэрвавацца, але жанчына пыхкае без зацяжкі, і сыгнал SOS хутка зьнікне. Жанчына напружана думае, моршчыць лоб, мэханічна падымае і апускае руку з цыгарэтай, маленькі вогнік якой працінае цемру: "Прыйдзі". Гасьне цыгарэта, але загараецца новы агеньчык — агеньчык надзеі. Габарытныя ліхтары. "Ці ты гэта, мой любы аўтобус №10? Я заўсёды цябе чакаю і верная табе, бо гэта ж ты едзеш, №10?" Усё бліжэйшы і бліжэйшы сылюэт аўтобуса Фары. Шыльда. Хвілінку, дайце ўгледзецца... "Ага! А гэта я, аўтобус! Нумар чатырнаццаць!!! Бачу, вы нечым пакрыўджаныя? Нічога, бывае! Я таксама некалі быў аўтобусам №10. Ну і што з таго — як бачыце, прайшло!" — "Сыходзь!" — жанчына закрывае твар рукамі. "Бр, бру, бру, пру адсюль з усяе моцы".

Рабочы, прыгладзіўшы далонёй валасы, непакоіцца: "Я адарваўся ад зямлі, дарваўся да гораду. Мой гарод, мой станок. Усё раблю рукамі, і ўсё ж мала мы ўзялі сёньня чарніла. Аўтобус №14, №14, №14. Мой нумар дзесяць. Чакаю і стаю тут колам. Во, згадаў, трэба паставіць плот на лецішчы. Учора піў, хапіла, а сёньня мала, мала ўзялі чарніла, вось таму так хвалююся з-за гэтага аўтобуса". Агні! Габарытныя агні, а за імі яшчэ. Ну, брат, паехалі, калі гэта... Гэта? Угледзься. Упялься. Надзея. Не відаць нумару. Ну, мара, ну, дзесяць? Эх!.. "Ды свой я, толькі чатырнаццаты!" Бру, бру. Дзьверы — пцасс: "Сядай. Сьвятло, людзі — сядай. Я такі самы аўтобус, як і той, якога ты чакаеш. Я таксама быў аўтобусам №10. Сам-насам аўтобусам №10. Па насох дзьвярыма, бо ня ўлазілі..." Паехаў.



Так і жыцьцё: чакаеш, што вось прыйдзе твой шчасьлівы аўтобус №10, а прыходзяць ні тое ні сёе — нумары чатырнаццатыя. Людзей паболела. Ізноў агні. Гэта наш, мы пазнаём ягоны колер! Вочы-фары. Хіба магчыма пераблытаць?! Гэта наш у дошку! А як падміргвае! Во, во сюды... Бліжэй да мяне, забяры мяне з сабой, мой родны дзясяты! Ах! Жах! "Бры, бры, брыдка мяне бачыць, бо я чатырнаццаты! І я быў некалі дзясятым. Паверце, быў — паехалі!" Людзі пачалі непакоіцца. Экспансія аўтобусаў №14 працягваецца. Іх, чатырнаццатых, разьвялося! Снуюць туды-сюды. Зьдзек: "І я, і я, і я быў дзясятым!" Далонямі вушы закрываеш: "Не, не, не, я не дзясяты". Адчуваеш: "Павер, павер, едзем, едзем, едзем" — "Дзе, дзе, дзе дзясяты? Ты, былы дзясяты, перайшоў у шэрагі чатырнаццатых, а хто ж будзе дзясятым, хто будзе крайнім?" — "Прабач, пабач, я ня крайні, я апошні і нумар дзесяць. Усіх забяру". Цесна. Едзем. Нясьпешна паўзе, набірае ходу наш аўтобус №10: "Гм, яны ня ведаюць там, у салёне, але я таксама некалі быў чатырнаццатым".

**Мік Стунжак**

